# ПОЛАЦАК

ВЫДАНЬНЕ БЕЛАРУСКАГА КУЛЬТУРНА-
АСЬВЕТНІЦКАГА ЦЭНТРУ
КЛІЎЛЕНД
ЗША




№6 (26), 1993

# ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ СУСЬВЕТНЫ ЗЬЕЗД



Дэлегаты Першага зьезду беларусаў сьвету каля гасьцініцы «Беларусь»

# Polatsak

Published with the financial support of the parish
Mother of God of Zyrovicy, BAOC
Cleveland, Ohio, USA.



Прозьвішчы падпішчыкаў і ахвярадаўцаў рэдакцыя будзе публікаваць у часопісе.

All correspondence should be addressed to:
S.Belaia or M.Bielamuk,
10915 Lake Rd., Cleveland, Oh. 44102, USA.
Tel. & Fax. (216) 651-3451

# Зьмест



На развароце: Эмблема Першага зьезду беларусаў сьвету.



# НАША ГІСТОРЫЯ



# Палітычны лад Полацкай дзяржавы ў X—XIII стст.

## *Князь і веча ў Полацкай дзяржаве X—XIII стст.*

Юры Штыхаў

Пры апісаньні падзеяў, якія адбываліся ў X ст, летапісец выкарыстоўвае тэрмін *«Полацкая зямля»*. У такой аўтарытэтнай крыніцы, як «Повесть временных лет» пад 980 годам гаворыцца, што Рагвалод *«имяше власть свою в Полотьске»*. У Лаўрэнцьеўскім летапісу больш падрабязна растлумачваецца, што Рагвалод *«держащю і владеющю і княжащю Полотьскю землю»*. Тут падкрэсьлена поўная незалежнасьць Полацкай зямлі, якой «валодаў», г.зн. кіраваў князь Рагвалод.

*«Полацкая зямля»*—летапісная назва самастойнай дзяржавы, якую гісторыкі звычайна называюць Полацкім княствам. Пра стварэньне Полацкага княства як дзяржавы ўжо расказвалася ў артыкуле Сяргея Тарасава, які быў надрукаваны ў часопісе «Полацак» ў 1991 г. №8 (с.9—15). Цяпер пойдзе размова аб палітычным ладзе гэтай дзяржавы. Такое пытаньне дагэтуль застаецца недастаткова распрацаваным.

Княства—асобная тэрытарыяльная адзінка. У пісьмовых крыніцах менавіта такія ўтварэньні вядомы пад назвай «зямля». Звычайна замест *Полацкая зямля* гаварылі проста *Полацак*. На насельніцтва дзяржавы пераносілася імя горада, і яно называлася «палачане». Захоп галоўнага цэнтральнага горада азначаў заваяваньне і падпарадкаваньне ўсёй зямлі-княства.

У сваім княстве, ці Полацкай зямлі, полацкія князі трымалі сябе як незалежныя гаспадары. Іх адносіны зь іншымі князямі вырашаліся альбо вайной, альбо мірам. Гэта значыць, што паводля сярэднявечнага звычая ўсе спрэчныя пытаньні вырашаліся ці сілай зброі, ці дагаворам («крыжацалаваньнем») з другімі князямі.

У Полацку й іншых гарадах з увядзеньнем хрысьціянства атрымала распаўсюджаньне цалаваньне крыжа для пацьвярджэньня князем узятых на сябе абавязкаў. Дагавор і цалаваньне крыжа часта практыкаваліся ў Полацкай зямлі, асабліва, калі князі запрашаліся гараджанамі на «стол», як тады называлі княскі пасад (трон).

Якім быў гэты княскі «стол» невядома, але паводля паведамленьня летапісу, у Полацку існаваў абрад «насталаваньня» князя—прыкмета набыцьця князем «стала». Калі князь Рагвалод Барысавіч у другі раз са згоды веча заняў полацкі княскі пасад, у летапісе з гэтай нагоды пад 1159 годам адзначана,што ён *«сеў на сталe дзеда свайго і бацькі свайго зь вялікім гонарам»*. (Паводля больш дакладнага летазьлічэньня падзея была ў 1158 г.)

Княскі пасад, а значыць і дзяржаўная ўлада ў Полацкім княстве, на працягу XI ст. **пераходзілі да старэйшага сына князя.** Пасьля сьмерці Ізяслава ў 1001 г. полацкі стол дастаўся старэйшаму сыну Ізяславу. Аднак ён памёр праз два гады і ў яго не было дзяцей. Па гэтаму на княскім пасадзе апынуўся яго брат Брачысла ў Ізяслaвіч (1003—

1044 гг.) Пасьля княжыў у Полацку доўгі час яго сын Усяслаў Чарадзей (1044—1101 гг.) Такі парадак насьледаваньня княскага пасада парушаўся ці наогул ня дзейнічаў у XII ст.

Першапачаткова абавязкам князя ў Полацку была арганізацыя войска, камандаваньне ім, устанаўленьне і зьбіраньне даніны. У Полацкім княстве князь быў галавой адміністрацыі, вышэйшым ваеначальнікам і судзьдзёй. Ён павінен быў клапаціцца аб бясьпецы і абароне Полацкай зямлі ад нападу зьнешняга ворага. Князь кіраваў непасрэдна зьнешняй палітыкай, зносінамі з другімі князямі і дзяржавамі, заключаў дагаворы, мог абʼявіць вайну і заключыць мір.

Апорай княскай улады была ваенная дружынная арганізацыя. Дружыньнікі акружалі князёў, падзялялі ўсе іх інтарэсы. Зь імі князь радзіўся ў пытаньнях арганізацыі паходаў, а таксама суда й адміністрацыйнага кіраваньня Полацкай дзяржавай.

Князь-правіцель XI—XII стст. адыгрываў значную грамадзкую ролю, якая адпавядала інтарэсам усяго грамадзтва таго часу. Полацкія князі кіравалі з дапамогай знаці і на яе карысьць. Разам з тым яны ажыцьцяўлялі дзейнасьць на патрэбу ўсяго народу.

Дружыны князёў складаліся з групаў узброеных людзей. На першым месцы была «старэйшая» дружына. Гэта «баяры», «сільныя мужы». Малодшая дружына «дзецкія» жыла пры двары князя. Зь яе выходзілі слугі князя, яго целаахоўнікі, малодшыя службовыя асобы. Дзецкі папярэдзіў полацкага князя ў 1158 г. аб падрыхтаваным на яго замаху і параіў князю вярнуцца з паўдарогі ад Полацка назад у Бельчыцу, дзе разьмяшчаўся ўмацаваны княскі двор. Сярод дружыньнікаў былі тыя, хто называўся «мужамі». Яны складалі асноўную кольцасьць княскіх дружыньнікаў. Дружына служыла князю, была яму асабіста адданая. Яна знаходзілася пры князю на яго ўтрыманьні.

Мяркуючы па мініяцюрах Радзівілаўскага летапісу, дружыны полацкіх князёў мелі свае сьцягі («прапары») ў выглядзе трохвугольных вымпелаў, прымацаваных да доўгіх жэрдак. Сьцягі адыгрывалі істотную ролю ў час бою, калі дружыны розных князёў перамешваліся так, што цяжка было адрозьніць сваіх ад чужых. Сьцягі на жэрдках былі арыеньцірамі на полі бою. Па іх палажэньні вызначалі разьмяшчэньне войск, растаноўку баявых сілаў. Наяўнасьць свайго прапара ў дружыны полацкага князя Усяслава засьведчана на мініяцюры, прысьвечанай бітве на Нямізе (1067г.).

Акрамя сваіх дружын войска князя ўключала наёмнікаў, якімі ў X—XI стст. былі атрады варагаў (нарманаў). Важнай часткай ваенных сілаў горада было народнае апалчэньне, якое складалася з гараджан. У Полацку апалчэньне называлася словам «полк». У XII ст. князі выкарыстоўвалі таксама дапаможныя атрады зь неславянскага насельніцтва Усходняй Прыбалтыкі, якое плаціла ім даніну.

Полацкія князі й іх семʼі валодалі вялікімі багацьцямі і мноствам каштоўнасьцей Князі мелі сродкі будаваць каменныя храмы, даравалі царквам залатыя і сярэбраныя царкоўныя прыналежнасьці і вельмі дарагое адзеньне.

Менскі князь Глеб Усяславіч ахвяраваў для патрэб Кіева-Пячэрскага манастыра 600 зьліткаў серабра і 50 грыўняў золата. Яго жонка перадала таму-ж манастыру 100 зьліткаў серабра і 50 грыўняў золата. Штодрым падарункам манастыру былі завешчаныя старой княгіняй пяць сёл з чэлядзьдзю.

У XII ст. у грамадзка-палітычным жыцьці Полацка набыло важнае значэньне веча — агульны сход палачан для вырашэньня найбольш важных грамадзкіх і дзяржаўных справаў. Тыя пастановы, якія прымала веча Полацка, былі абавязковымі для выкананьня ў «малодшых» гарадах, яму падпарадкаваных. Малыя гарады мелі пэўную самастойнасьць. У гэтых гарадах таксама дзейнічала веча. Малодшымі гарадамі адносна Полацка ў Полацкай зямлі былі Віцебск, Лукомль, Менск, Друцк, Заслаў, Браслаў, Ворша, Копысь (да 1116 г.), Барысаў, Лагойск і інш.

У Полацку ў вырашэньні справаў на вечы ўдзельнічалі ўсе самастойныя гаспадары — дарослыя жыхары горада і воласьці. Людзі звычайна скліканіся на галоўную плошчу горада каля Сафіі вечавым звонам. На вечы пры вырашэньні спрэчных пытаньняў большасьць вызначалася тым, чые галасы былі больш чутныя, па сіле крыку.

На вечы вырашаліся пытаньні вайны і міру, кантралявалася дзейнасьць князя, ажыцьцяўляўся вышэйшы суд. Абмяркоўваліся і справы гандлю. Ад імя полацкага веча заключаліся дагаворы з Рыгай і іншымі гарадамі. У вечавых сходах удзельнічаў япіскап. Ад яго імя таксама пісаліся дагаворы, што заключала полацкае веча, да іх прывешвалася яго пячатка. Япіскап быў уплывовай асобай у Полацкай зямлі.

Калі веча не падтрымоўвала князя, ён вымушаны быў пакінуць горад, таму што веча мела сваю ўзброеную сілу — апалчэньне гараджан. Выступіць супраць апалчэньня гараджан ці «палка», як яно тады называлася, князь ня мог з сваёй параўнаўча невялікай дружынай. Таму ў неспакойныя часы князі стараліся задобрыць гараджан, схіліць іх на свой бок, для чаго частавалі людзей на абедах, раздавалі падарункі, запрашалі да крыжацалаваньня на вернасьць князю.

У XII ст. Полацкая зямля паступова падзялялася на больш дробныя ўдзельныя воласьці на чале з буйнымі гарадамі. Уладу ў воласьці ўзначальваў князь — прадстаўнік полацкага княжага роду. Князі прэтэндавалі на тую ўдзельную воласьць, якой валодаў іх бацька, дзе яны нарадзіліся і вырасьлі.

Пры размеркаваньні валасьцей паміж князямі дзейнічаў прынцып «бацькаўшчыны», ці валоданьня воласьцю па спадчыне. Так, пры спрэчцы, каму павінен належаць горад Ізяслаўль, у 1158 г. полацкі князь вырашыў аддаць горад князю Брачыславу Васількавічу, таму што ён быў яго бацькаўшчынай. У XII ст. князі Глебавічы захоўвалі за сабой права на Менск, Барысавічы, на Друцк, Васількавічы, Віцебск.

Полацкі князь лічыўся галавой усёй Полацкай зямлі таксама ў XII ст. калі мясцовыя князі сталі гаспадарамі асобных валасьцей — Менскай, Друцкай, Віцебскай, Заслаўскай, Лагойскай і інш.

Полацкія баяры, выкарыстоўваючы веча, мелі магчымасьць выганяць з Полацка непажаданага ім князя. Веча не зьнішчала ўлады князя, а толькі абмяжоўвала яе. На месца выгнанага князя яно выбірала іншага прадстаўніка полацкай княскай дынастыі, які да гэтага княжыў у другім горадзе Полацкай зямлі.

У 1127 г. палачане прагналі свайго князя Давыда і выбралі князем яго брата Барыса Ўсяславіча (памёр у 1129 г.) У 1132 г. палачане прагналі навязанага в. князем кіеўскім Мсьціславам Сьвятаполка і выбралі полацкім князем Васілька — унука Ўсяслава Брачыславіча Чарадзея. Гэты год можна лічыць часам зацьвярджэньня прынцыпу выбарнасьці князя ў Полацку. У летапісу

прыведзена выслоўе, зь якім палачане выправадзілі Сьвятаполка з горада *«пазбаўляешся нас»*.

У палітычным жыцьці Полацка роля веча яшчэ больш узрасла. Князь павінен быў прымаць умовы дагавора, які выпрацоўваўся палачанамі. Выключнай асаблівасьцю ажыцьцяўленьня прынцыпа выбарнасьці князя ў Полацку было тое, што гэты выбар быў абмежаваны вузкім колам прадстаўнікоў мясцовай полацкай княскай дынастыі, непасрэдных нашчадкаў з роду Ўсяслава Брачыславіча Чарадзея. Чужародны, некрывіцкі князь зусім ня мог разьлічваць на тое, каб утрымацца на полацкім троне.

У другой палове XII ст.палітычнае жыцьцё Полацкай зямлі было напоўнена барацьбой варагуючых баярскіх груповак, выступленьнямі гараджан,зьменай князёў на пасадзе. Пра адно выступленьне гараджан у летапісе гаворыцца: *«Мяцеж быў вялікі ў горадзе сярод палачан»* (1158 г.) На вечавых сходах кіпела барацьба.

У 1151 і 1158 гг. зь пераменным посьпехам змагаліся паміж сабой за трон у Полацку ўнукі Ўсяслава —Рагвалод Барысавіч і Расьціслаў Глебавіч. Нарэшце, у Полацку зацьвердзіўся князь Усяслаў Васількавіч віцебскі. Летапісы ўпамінаюць пра яго ў апошні раз у 1180 г.

У Полацкай зямлі на працягу XII—XIII стст. назіралася двоеўладзьдзе —улада князя й улада веча. Ні адна зь іх ня мела дастатковай перавагі над другой. Полацку пачалі пагражаць крыжакі, і амаль адначасова ўзьнікла небясьпека манголататарскага заняволеньня. Гэта прымушала Полацак, відаць, прызадумацца і на дагаворных пачатках, увайсьці ў склад ствараемага Вялікага княства Літоўскага.



Усяслаў Чарадзей. Кадр з фільму «Да вас, сучасьнікі».

# Тапаграфія знаходак манэтаў і аздобаў

*Менская вобласьць*

Міхась Белямук

***Краснавінка, Крупскі р-н***

У 1961 г. прыпадкова быў знойдзены скарб арабскіх дыргемаў. Манэты людзі разабралі, але 2 дыргемы з гэтага скарбу атрымаў Віцебскі краязнаўчы музэй.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| **Саманіды** | аш-Шаш (Ташкент) | Узбекістан | 928/9 | Наср ібн Ахмад |
| **Бувайгіды** | ал-Басра | Ірак | 946/7 | Імад і Муйіз ад-даўля |

*Рабцэвіч і Стуканаў... б.38, №28*

***Лагойск***

Браты Тышкевічы ў Лагойску мелі музэй археалягічных знаходкаў. Тышкевічы праводзілі раскопкі ў Барысаўскім і Менскім уездах. У 1919 г. з Лагойску ў Варшаву прывезьлі частку калекцыі Тышкевічаў на выстаўку, і рэчы пазьней засталіся ў Польскім дзяржаўным музэі ў Варшаве: 5 сярэбраных скранёвых кольцаў дыяметрам 80 мм, пацерка пазалочаная, 68 пацерак шклозалочаных і шклосярэбраных. Дакладна няведама, дзе рэчы былі знойдзеныя.

*Поболь... б.160, 181*

***Лецкаўшчына, Менскі р-н***

У 1894 г. быў знойдзены прыпадкова селянінам скраб арабскіх сярэбраных дыргемаў. У археалягічную камісыю прыслалі 502 дыргемы, якія В.Г. Тызенгаўзен разгледзеў і даў кароткае агульнае апісаньне. Ягоную запіску апублікаваў А.Маркаў. У А. Маркава назоў вёскі Ленцікоўшчына, прыпушчаем, дадзены памылкова, бо ў «Слоўніку» Я. Рапановіча такой вёскі няма, але ёсьць Лецкаўшчына каля р.Пцічы.

| | |
|---|---|
| **Абасыды** | 19 дыргемаў чаканеных у 816-907 гг. у гарадох: Бадда—Марока; Армінія (Дабіл); Дамаск—Сырыя; Багдад, ал-Куфа, Сураманра —Ірак; Ісбаган, Тустэр мін ал-Ахваз — Іран; |
| **Саманіды** | 405 дыргемаў чаканеных у 893—912 гг. у гарадох: Андараба, ал-Біяр, Мерв, Нісабур—Іран; Балх—Афганістан; аш-Шаш (Ташкент), Самарканд —Узбекістан. |
| **Тагірыды** | 5 дыргемаў чаканеных у 860—871 гг., у гарадох: ал—Мухамедыя—Ірак; Ісбаган—Іран; аш—Шаш (Ташкент), Самарканд —Узбекістан. |
| **Сафарыды** | 7 дыргемаў чаканеных у 882-892 гг. у гарадох: ал—Ахваз, Ніхабур, Шыраз—Іран, Самарканд —Узбекістан. 7 дыргемаў былі імітацыяй саманідзкім дыргемам, а 60 дыргемаў былі сьцёртыя, засталіся нерасчытанымі. |

*Марков... б. 138, № 13. Штыхов [2]... б.187, №363, Рапановіч... б.153.*

*Маладэчна*

Л. Побаль піша, што «з горадам зьвязны знаходкі рымскай і парфянскай манэты». Што да знойдзеньня рымскай манэты, знаходка не выклікае засьцярогаў, але знойдзеньне парфянскай манэты ёсьць сэнсацыйнай весткай. Парфянскае царства пачтак бярэ 250 год да нараджаньня Хрыста і праіснавала каля 500 год. Яно пала пад ударамі Рыма, змаганьнем за ўладу і прыходам да ўлады дынастыі Сасанідаў. Апошнія манэты Парфян паходзяць з 207-222 гг., чаканіў цар Вологеза У

*Поболь[2]... б. 370, № 299.*

*Маладэчна*

20 чэрвеня 1964 г. краязнаўчы музэй у Менску атрымаў ад вучняў з Маладэчна 7 манэтаў, якія былі знойдзеныя ўМаладэчна.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Басфор | ІУ ст. (няведама басфорскай ці нашай эры) | сярэбраная | 1м |
| Рым | Канстантына імп. (311-337), | сярэбраная | 1м |
| Рым | ??? (год і месца чаканкі непададзена), | медзяныя | 5м |

Поболь[2]... б.370, №298

*Маладэчанскі р-н*

В.В. Кропоткін кажа, што ў менскі музэй у 1928 г. былі прысланыя 18 рымскіх і бізантыйскіх манэтаў, знойдзеных каля Маладэчна, і «находка очень сомнительна».

У часопісе «Полымя» №2, за 1928 г. чытаем паведамленьне: «на гэтых днях Беларускі Дзяржаўны музэй набыў 18 антычных манэтаў, якія адносяцца з І—УІІ стст. і вельмі рэдка сустракаюцца ў музэях. Манэты былі знойдзеныя падчас капаньня акопаў каля Маладэчна. Манэты рымскія і бізантыйскія».

Сумніўнасьць можа ўзьнікнуць, ці яны знойдзеныя адначасова ў адным скрабе, ці знойдзеныя ў розным часе і зьяўляюцца знаходкамі розных скрабаў.

*Кропоткін[2]... б.97, № 1389, «Полымя», Мн., 1928, №2, б.232*

*Маладэчанская вобл.*

У 1956 г. архэоляг К.Палікарповіч у размове з архэолягам Ф.Гурэвіч паведаміў яе, што ў Маладэчанскай вобл. над рэчкай Беразіной, быў знойдзены скраб арабскіх дыргемаў. Лёс гэтага скрабу нявысьветлены і колькасьць манэт няведамая.

*Гуревич...б.137*

*Мелькавічы, Салігорскі р-н*

Каля вёскі быў хутар Парфена Герасімені ўручышча Цеснае. У 1926 г. П. Герасіменя выараў сярэбраны нашыйнік. У наступным 1927 г. ён таксама на тым-жа мейсцы выараў 5 сярэбраных нашыйнікаў і сярэбраны бранзалет. Адзін нашыйнік быў паламаны, абломкі людзі разабралі. Рэшту знойдзенага скарбу пераслалі ў Беларускую Акадэмію Навук.

Бранзалет сярэбраны важыў 33.5 г.

Нашыйнік віты з 3-х дратоў важыў 218, 5 г.

Нашыйнік спаяны з 2-х пустых трубак важыў 113, 5 г.

Нашыйнікі з дроту, адзін важыў 128,0 г. другі важыў 158,0 г.
Нашыйнік, у якім канцы абламаныя, важыў 148, 0 г.
*Ляўдански [5]... б. 245*

***Менск***

У 1883 г. мянчук пры перакапаньні зямлі ў агародзе знайшоў скарб 32 рымскія манэты з IУ ст. Манэты купіў калекцыянер А.Краўзе з Курляндыі.
*Кропоткин [2].. б.97, № 1385, Рябцевич.... б.191*

***Менск***

У 1914 г. на беразе р. Сьвіслачы недалёк месца на Камароўцы знайшлі арабскую манэту.

**Абасыды** ал-Басра Ірак 797/8 ар-Рашід
*Харлаповіч... б. 325, № 81, Фасмер [2]... б.290, №27*

***Менск***

У 1925 г. былі знойдзеныя арабскія дыргемы. Адзін дыргем знайшлі на беразе р. Сьвіслачы, другі дыргем ў агародзе І.Маневіча пры вуліцы Розы Люксэмбург.

**Абасыды** Багдад Ірак 795/6 ар-Рашід
**Бувайгіды** ??? 997-1021 Шамс ад-даўля абу Тагір
*Фасмер... б. 292, № 48, Фасмер [2].. б.290, №28, Харлаповіч.... б. 325, №78*
*«Звязда», за 23 1925 г.*

***Менск***

У 1926 г. хлопчык Б.Рубенчык, каб павудзіць рыбу, шукаў чарвякоў на беразе рэчкі Сьвіслачы. Неспадзявана заўважыў манэту, якую прынёс у Беларускі дзяржаўны унівэрсытэт. Манэту ачысьцілі і паставілі пераслаць у Эрмітаж А.Зографу, спэцыялісту антычнай нумізматыкі. Ён асьведчыў, што манэта рэкда сустраканая, яна медзяная, чаканеная ***Рыскупарыдам У, царом Басфору, у 264 г. нашай эры.***
*Харлаповіч....б.325, №80, Фасмер... б.292, №48*

***Менск***

У 1928 г. паэт Янка Купала ў сваім агародзе прыпадкова, капаючы зямлю, заўважыў сярэбраную манэту, якая аказалася арабскім дыргемам.

**Бувайгіды** Араджан (?) Іран 977-982 Адод ад-даўля абу Шэджа
*Фасмер... б.290, №29*

***Менск***

У 1957 г. пры нявысьветленых акалічнасьцях знайшлі электронавы статер **Савроматы II (174—210) цара Басфору**, чаканены, праўдападобна 198 г. нашай эры.
*Рябцевич....191, №26, Зограф... б. 204-206, 248*

*Менск (замчышча)*

У 1951 г. В.Тарасенка, расчышчаючы падмурак царквы, знайшоў масыўны залаты бранзалет, сплецены з трох дратоў. Канцы бранзалета, заціснутыя ў залатыя бляшкі, на якіх выгравіраваныя стылізаваныя галовы зьмеяў. Вага бранзалету 75.472 г.

Тарасенка праводзіў раскопкі ў 1946-1951 гг., а Э.Загарульскі ў 1952-1961 гг. на замчышчы. Яны знайшлі аздобы: *пацерку, пасярэбраную зернью; завушнічку сярэбраную. Таксама колт сярэбраны, пацеркі шклозалочаныя и шклосярэбраныя. Рукаятка мяча аздобленая сярэбранымі накладкамі, якія пакрытыя гравіроўкай. Утулка дзіды інкруставаная серабром і аздобленая сярэбранымі бляшкамі, на якіх заўважаецца гравіроўка лініяў стылізаванага расьліннага арнамэнту. Шпоры захавалі сьляды серабра і сьляды інкрустацыі. Некаторыя бляшкі зь сьлядамі серабра маглі быць жаночымі аздобамі.*

*Тарасенка.. .б. 235-236, 239, Загорульский... б. 214-216, 220-222, 226, 234, 349, 350.*
*Яніцкая... б.156, № 184, Штыхов[19] .. б. 153*

*Менск (замчыша)*

У 1976 і 1981 гг. Г.Штыхаў праводзіў раскопкі замчышча і знайшоў шклозалочаную пацерку і білонавы нашыйнік з XI ст., які важыў 150.0 г. Нашыйнік сьплецены з трох дратоў, канцы маюць бляшкі, арнамэнтаваныя трохкутнікамі.

*Штыхов.. .б.76, Штыхов[5]... б.366, Яніцкая... б. 156, № 184*

*Менск (замчышча)*

У 1984 г. Побаль, Штыхаў і др. праводзлілі раскопкі замчышча і знайшлі шклосярэбраную пацерку з XI ст.

*Поболь, Штыхов, Соболь і др.... б. 349*

*Менскі р-н*

Восеньню 1894 г. у маёнтку графа Гутэн—Чапскага быў знойдзены скарб манэтаў, які жандармэрыя забрала і кудысьці адаслала. Весткі аб скарбе загінулі. Людзі кажуць, што ў скарбе было каля 500 манэтаў. Паколькі прыпадкова зьбераглося 2 манэты, а яны ёсьць арабскія дыргемы. Адсюль прыпушчэньне, што скарб складаўся з арабскіх дрыгемаў.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Саманіды** | Балх | Афганістан | 904/5 | Ізмаіл ібн Ахмад | 1ц |
| Імітацыя саманідзкім дыргемам | | | | | 1ц |

*Марков.. б. 138, №14*

***Менская губ.***

У 1835 г. у губэрні быў знойдзены скарб. Акалічнасьці знаходкі скарбу і мясцовасьць нявысьветленыя. Няма інфармацыяў аб колькасьці манэт у скарбе. Вядома толькі, што Расейскае нумізматычнае таварыства атрымала 21 манэту.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| **Омаяды** | Самія Ірак | 748/9 | Марван(?) | 1ц |
| **Абасыды** | чаканеныя у 751-816 гг. | | ас-Сафаг—ал Мамун | 17ц |
| | Іфрыкія (Кайруан)—Туніс, Арменія (Дабіл), Мадэн Баджунэс—Арменія, | | | |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Абасыды** " | Гарунія — Сырыя, Багдад, Джэй, ал-Куфа, Мерв—Ірак, Зерандж—Іран, Самарканд—Узбекістан | | | | |
| **Ідрысіды** | Бадаа | Марока | 790/1 | Ідрыс1 | 1ц |
| **Ідрысіды** | Валіла | Марока | 790/1 | Ідрыс1 | 1ц |
| **Алгабіды** | Іфрыкія | Туніс | 802/3 | Ібрагім 1 | 1ц |

*Савельев ...б.24-25, №15.* *Марков... б.24, № 136*

*Менская губ.*

У сакавіку 1936 г.В.Зайцэўскі з Масквы ў Пецярбург дырэктару ўсходніх моваў Ф.Адэлунгу прыслаў 350 арабскіх дыргемаў,якія былі знойдзеныя ў Менскай губ., без удакладненьня мясцовасьці, часу і акалічнасьцяў знойдзеньня скарбу. А.Маркаў зрабіў прыпушчэньне, што яны маглі паходзіць з скарбу, знойдзенага ў 1835 г., але не прывёў доказаў для падмацаваньня свайго прыпушчэньня. У інстытуце ўсходніх моваў агледзілі прысланыя дыргемы і выбралі рэдкія, цікавыя 144 дыргемы для мінц-кабінэта інстытуту. Рэшту, выглядае, вярнулі ў Маскву. Апісаньня, нават, тых 144 дыргемаў няма.

*Марков... б.24, №136.*

**Мужонка, Барысаўскі р-н**

У 1871 г. афіцэры Уладзімерскага пяхотнага палка раскапалі каля вёскі курган. У кургане знайшлі залатыя скранёвыя кольцы, залатыя завушнічкі і сярэбраныя шпоры. Што сталася з знойдзденымі аздобамі няма інфармацыі,

Лысенко... б.195, №75.

***Навасёлкі, Мядзельскі р-н***

У Ламніцкага Ст. была калекцыя пацеркаў,якія знаходзілі каля вёскі да 1926 г. Пацерак з X—XII ст.Ламніцкі меў: 19 шклозалочаных і 2 шклосярэбраныя.

Поболь... б184, № 391

***Новасёлкі, Мядзельскі р-н***

У 1962 г, І.Цюрына раскапала курган і знайшла арабскі дыргем, важыў 2. 83 гр.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| **Саманіды** | Самарканд | Узбекістан | 922/3 | Наср ібн Ахмад |

Рабцэвіч і Стуканаў... б.38, №27

***Нарач, Мядзельскі р-н***

У мінулым стагодзьдзі А.Кіркор раскапаў курганны могільнік, які старажылы называлі «старадаўнім», па другой старане возера курганны могільнік, старажылы называлі «швэдзкім». Швэдзкімі могільнікамі называлі курганы з ХУІ—ХУІІ ст. Кіркор у кургане «старадаўнім» знайшоў сярэбраны нашыўнік.

Покровский... б. 32-33.

***Наўры, Мядзельскі р-н***

У 1934 г.Галіна Цэгак-Галубовіч раскапала курган №5 у каторым знайшла сярэбраны

нашыйнік. У кургане №14 знайшла шклозалочаную пацерку, у кургане 21 знайшла сярэбраную арнамэнтаваную бляшку з адціснутым малюнкам зьвера і пальметак. Аздобы паходзяць з XI—XII стст.

*Гуревич... б.198, № 178, H. Cehak -Holubowicz... s. 27-30, 39*

## Бібліяграфія


Гл.«Полацак» № 8(18), 1992 г. —Кропоткін [2], Марков, Поболь, Поболь[2], Покорвский, Рябцевич, Рабцэвіч і Стуканаў, Савельев, Фасмер, Яніцкая. Полацак №9(19), 1992—Штыхов [2], Штыхов [5]

Полацак № 2(22), 1993—Харлаповіч, Полацак № 3 (23), 1993—Фасмер [2],Полацак №4 (24). 1993—Гуревич

«Полацак» №6(26) —Cehak-Holubowicz, H. Material i zagadnienia cmentarzyska kolo wsi Nawry w pow. Postawskim. Rocznik Archeologiczny, t.1, Wilno, 1937.

Загорульский Э.Н. Возникновение Минска. Мн.1982

Зограф А.Н. Античные монеты. МИА, №16, М.—Л, 1951

Лысенко П.Ф. Дреговичы, Мн.1991

Ляўданскі А.[5] Розныя знаходкі —Працы сэкцыі археолёгіі т. III, Мн., 1932

Поболь д., Штыхов Г., Соболь В. и др. Раскопки в Минске. —АО за 1984, М. 1986,

Тарасенко В.Р. Древний Минск, —зб. Материалы по археологии БССР. Мн., 1957,

Штыхов Г.[19] Экономическая жизнь городов —зб. Очерки по археологии Белоруссии. ч. II, Мн., 1972




№1,2,3 дзіда, бранзалет і колт з Менску (замчышча).
№4 манэта, драхма, Вологеза У, 207-222гг. Парфія, Маладэчна.
№5 міліарысы Канстантына імп. (306-337), Рым, Маладэчна
№6 сестрыцы Савроматы II, цара (196—210), Босфар, Менск
№7 «статэр» Рыскупорыда У, 264 г. цара Босфару, Менск.

 **ЗѢРЦАЛО ЖИТІЯ** 

# 200-годзьдзе Менскай япархіі

Анатоль Белы




Эмблема сьвята

У дзень Усіх беларускіх сьвятых, сьвята сьвятых угоднікаў Божых, якія подзьвігам веры праслаўлялі і ратавалі зямлю Беларускую, у Менску адзначалася 200-годзьдзе ўтварэньня Менскай япархіі. Сьвята, якое прыйшло да беларусаў пасьля другой вялікай урачыстасьці— 1000-годзьдзя Беларускай Праваслаўнай Царквы.

«*Менскую япархію,* —адзначана ў пасланьні Мітрапаліта Менскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі, мітрапаліта Філарэта да 200-годьдзя Менскай япархіі, — *па праву можна разглядаць як пераемніцу найстаражытнай Тураўскай япархіі, якую яна ўключыла ў свае межы, як асноўнае ядро царкоўнасьці, гэта сьведчыць, што зерне Праваслаўя, пасеянае тысячу гадоў назад, прынесла добры плён».*

Эмблемай сьвята 200-годзьдзя стала выява Багародзіцы ў акружэньні 6 херувімаў. Як вядома, Дзева Марыя ёсьць апякунка Менску. Менавіта таму яе выява і была 15 студзеня 1591 году зацьверджана на гербе горада. Багародзіца стала апякункай і гэтага сьвята Праваслаўя

Пачалася ўрачыстасьць 200-годзьдзя Менскай япархіі 26 чэрвеня пад узьнёслыя мэлёдыі званоў Менскіх храмаў. Зранку ў царкве сьв. раўнанаапостальнай Марыі Магдалены адбылася сьв. Літургія. Гэта была незвычайная служба. Сотні людзей і служыцеляў царквы адпраўлялі паніхіду за спачыўшых архіерэях, пастырах, міранах Менскай япархіі за час, які ўвабраў у сябе ня многа і не мала, а мінулыя два стагодзьдзі.

У невялікай, нядаўна адноўленай царкве Марыі Магдалены (пабудавана ў 1847 г.) гучалі малітвы за архіяпіскапаў Віктара (Садкоўскага), Антонія (Зубко), Міхаіла (Галубовіча), за архіяпіскапа Яўгена (Шарашылава), які выдаў першы і для свайго часу найбольш поўны збор твораў сьвяціцеля Кірыла Тураўскага, за мітрапаліта Мелхідэка (Паеўскага), на долю якога выпаў час нялёгкага догляду паствы ў трагічныя 20-я гады нашага стагодзьдзя, і многіх іншых дзеячоў царквы. Людзкая памяць удзячная ім за тое, што яны ва ўсе часы змаглі захаваць веру праваслаўную і перадаць яе ў спадчыну наступным пакаленьням.

Удзельнікі сьвяткаваньня пабывалі і ў Заслаўі, на сьвятой зямлі, дзе жыла славутая Рагнеда-Гарыслава—Анастасія. Тут яшчэ не забыліся пра Рагнеду й яе сына Ізяслава, і ў кожнай сям'і перахоўваюцца легенды аб іх знаходжаньні ў гэтым старажытным горадзе. Амаль год назад на гэтай такой дарагой кожнаму беларусу зямлі, у гонар 1000-годзьдзя Праваслаўнай Царквы ў Беларусі быў пастаўлены Сьвяты Крыж—сымбаль праваслаўнай веры. І вось новая падзея ў Заслаўі: асьвечана будоўля праваслаўнай капліцы «У імя ўсіх беларускіх сьвятых», якая стане рэальным пачаткам стварэньня гісторыка-культурнага комплексу Гарыслава. Да гэтай капліцы з пачуцьцём сьветлым, узьнеслым, добрым будуць прыходзіць беларусы. Яны будуць несьці сваю любоў і веру ў адраджэньне роднай зямлі, яе гісторыі, культуры, рэлігіі.

Пасьля Заслаўя —шлях на Слуцк. І гэта невыпадкова. Пасьля заключэньня ў 1596 г. вуніі Слуцк быў амаль адзіным горадам тагачаснай Беларусі, які, мужна вытрымаўшы ціск вуніятаў і каталікоў, застаўся праваслаўным, захаваўшы традыцыі, чысьціню вучэньня Праваслаўя. Вечарам у Слуцкіх цэрквах адбыліся сьвяточныя богаслужэньні. На іх сабраліся ня толькі госьці зь Менску і случчакі, але і вернікі з суседняга Старадарожскага раёна.

27 чэрвеня, дзень Усіх беларускіх сьвятых выдаўся вельмі прыгожым і сьветлым. Сьвятая Літургія адбылася ў Сьвята-Духаўскім кафэдральным саборы і ва ўсіх храмах Менска. Пасьля сьв. Літургіі вернікі і сьвятары пайшлі хрэсным ходам у Верхні Менск, на замчышча. Туды, дзе ў 1949 г. археолягам В.Тарасенкам быў знойдзены падмурак невядомай царквы XI стагодзьдзя. Царква, так лічаць дасьледчыкі, зьяўляецца ня толькі адной з самых раньніх цагляных пабудоваў горада, але і старажытнейшым хрысьціянскім архітэктурным збудаваньнем. На месцы, дзе калісьці нашыя дойліды пачалі будаваць гэтую царкву, (зь невядомых прычынаў яна не была скончана) служыўся малебен. Таксама тут быў асьвечаны памятны камень-знак, які зноў-жа будзе нагадваць нашчадкам аб каранях праваслаўнай рэлігіі і няпростым шляху яе гісторыі.

Вельмі ўзрушаным момантам сьвята стала ізьнясеньне зь Сьвята-Духаўскага кафэдральнага сабора мошчаў сьв. праведнай Сафіі Слуцкай і пакланеньне ім.



Сьв. Сафія Слуцкая

Праведная Сафія была апошняй княгіняй слаўнага роду князёў Слуцкіх і Копыльскіх, продкаў в. кн. Альгерда. Нарадзілася яна 1 травеня 1585 г. У тым-жа годзе памерла яе маці, а на наступны год і бацька, князь Юры. Праведная Сафія выхоўвалася ў сваіх дальніх сваякоў Юрыя Хадкевіча, а пасьля Іераніма Хадкевіча. 1 кастрычніка 1600 адбыўся шлюб праваслаўнай княжны Сафіі і

каталіка князя Януша Радзівіла. Перад шлюбам княжна паставіла сваёй вымовай, каб дзеці ад гэтага шлюбу былі абавязкова праваслаўнымі.

У пэрыяд заключэньня вуніі Слуцк належаў княгіне Сафіі. Менавіта яна і стала ахоўніцай праваслаўных сьвятыняў. Акрамя юрыдычнай абароны Праваслаўя Сафія заўсёды турбавалася аб матэрыяльным забесьпячэньні манастыроў, цэркваў і шчодра ахвяроўвала на храмы Божыя. Яна асабіста вырабляла каштоўныя, вышытыя золатам і срэбрам аблачэньні для сьвятароў.

Дзякуючы дзейнасьці княгіні Сафіі, Слуцк яшчэ пры жыцьці яе атрымаў асаблівае значэньне ў рэлігійных адносінах для Беларусі, захаваўшы ў чысьціне і недатыкальнасьці Праваслаўе.

Пакланеньне мошчам праведнай сьв. Сафіі (памерла княгіня 19 сакавіка 1612 г.) у дзень Усіх беларускіх сьвятых стала вельмі сымбалічнай часткай сьвята.



У час пакланеньня мошчам сьв. Сафіі

У абрадзе ізьнясеньня адчувалася своеасаблівае прычашчэньне да гісторыі 200-гадовага шляху праваслаўнай Менскай япархіі, вяртаньне да сваіх каранёў і сваіх сьвятых. Пройдуць гады, дэкады. У гісторыі Менскай праваслаўнай япархіі зьявяцца новыя сьвяты і новыя сьвятыя. Але назаўсёды будуць у памяці нашчадкаў беларусаў тыя, хто стаяў ля вытокаў япархіі.

«*Адраджэньне царкоўнага жыцьця,*— сказана ў сьвяточным пасланьніі Мітрапаліта Менскага і Слуцкага Філарэта, —*адбываецца ў нялёгкіх умовах, але няма такіх цяжкасьцей, якіх немагчыма было-б адолець з Божаю дапамогаю. Давайце-ж з спадзяваньнем на міласэрнасьць Гасподнюю, на заступніцтва ўсіх сьвятых, якія зазьзялі ў зямлі Беларускай, рабіць усё, што ад нас залежыць, кожны на сваім месцы, каб узнавіць жыватворную духоўную сувязь часоў*».



# Пасланьне

## *Мітрапаліта Менскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі*

## ўдзельнікам Зьезду беларусаў сьвету

Шаноўныя спадары,
браты і сёстры!

Праваслаўная Царква Беларусі вітае вас на роднай зямлі і жадае плённай працы на карысьць духоўнага і культурнага адраджэньня беларускага народу на карысьць міру і згоды паміж людзьмі.

Гісторыя раскідала беларусаў па сьвеце, падзяліла дзяржаўнымі і канфэсыйнымі межамі,але жыве асноўнае, што яднае ўсіх—Беларушчына, родная зямля, народ, мова, культура, агульныя хрысьціянскія прынцыпы маралі, узгадаваны Царквою беларускі менталітэт, дарагія ўсім народныя традыцыі—усё тое, што мы завем душой народу.

Працэс нацыянальнага яднаньня павольна, але жыве. Так, на вялікіх урачыстасьцях 1992 году з нагоды 1000-годзьдзя Праваслаўнай Царквы ў Беларусі і зусім нядаўна пад час сьвята ўсіх Беларусі сьвятых, калі адзначалася 200-годзьдзе Менскай япархіі, да нас прыяжджалі госьці з розных кантынентаў і краін, сярод іх шмат беларусаў. У апошнія гады, калі ўзнавіліся ўсе 10 старажытных беларускіх праваслаўных япархіяў, на япіскапскія кафэдры і на прыходы, выкладчыкамі адноўленай Менскай Духоўнай Сэмінарыі вярнуліся на радзіму многія беларусы з былога Саюзу. Зрабіць гэта было не лёгка, бо з благаславеньня Царквы і Патрыярха яны служылі ў іншых месцах, але з дапамогай Яго Сьвяцейшаства Патрыярха Алексія ўсё ўладкавалася. Зараз намесьнікам Жыровіцкага манастыта зьяўляецца выхаванец Маскоўскай Духоўнай Акадэміі архімандрыт Гурэй са Сьвята-Троіцкай Сергіевай Лаўры, з Акадэміі вярнуўся на радзіму пратаярэй Сяргій Гардун, які выкладае ў Сэмінарыі Біблейскую гісторыю на цудоўнай беларускай мове. Зь дзесяці нашых япіскапаў восем—беларусы, большасьць якіх вярнуліся з Расеі. У навукова- багаслоўскіх справах Беларуская Царква заўсёды мае падтрымку і дапамогу вядомага сучаснага багаслова беларуса протапрэсьвітэра В.Баравога, прафэсара Маскоўскай Духоўнай Акадэміі. У гэтым імкненьні беларусаў працаваць на радзіме бачыцца мне добры плён сувэрэннасьці Беларусі, утварэньня самастойнага Беларускага Экзархата.

Мы з радасьцю сьведчым, што пасьпяхова адраджаюцца беларускія манастыры—у Полацку, Горадні, Магілёве, Воршы. У адноўленай Ту-



раўскай япархіі XI ст. сёлета быў урачыста адкрыты й асьвечаны помнік сьвяціцелю Кірылу, япіскапу Тураўскаму

Беларуская Біблейская Камісія ажыцьцявіла пераклад Сьвятога Евангельля паводля Матфея, які быў выдадзены ў 1991 г. Праца над беларускім перакладам Новага Запавету працягваецца, і хацелася-б ведаць адносіны беларускай дыяспары да якасьці гэтага перакладу. Думаецца, што прыбыўшым з-за мяжы будзе цікава пазнаёміцца зь нядаўна выдадзенымі па благаславеньні Царквы кнігамі «Шлях немаркотны. Нарысы гісторыі сьвятасьці Белай Русі», Аляксея Мельнікава і «Жывапіс Полацкай зямлі XI—XII стст.» Адольфа Сяліцкага.

Мы атрымліваем замежныя рэлігійна-грамадзкія часопісы з дыяспары, але хацелася-б, каб Менская Духоўная Сэмінарыя больш мела замежных беларускіх выданьняў, незалежна ад іх канфэсыйнай прыналежнасьці. Калі мы будзем лепш ведаць адзін аднаго, ведаць жыцьцё нашых Цэркваў будзе ўсталёўвацца мір і згода, будзе будавацца наш агульны дом—Беларусь. Пошук ворага гістарычных правінаў-нехрысьціянскі, заганны шлях. Зараз у цяжкія для Беларусі чарнобыльскія часы больш за ўсё патрэбна адзінства народу, усіх беларусаў—на радзіме і ў дыяспары. І ўсё мы павінны не забывацца аб хрысьціянскім аптымізме, аб словах, што сказаў пасьля Уваскрасеньня Гасподзь нам Ісус Хрыстос: «Радуйцеся!», — бо перамог сьмерць, уладу граху і дыявала.

Беларусь атрымала зямную свабоду веравызнаньня, царкоўнага жыцьця, хрысьціянскага выхаваньня дзяцей і моладзі, свабоду аднаўляць і будаваць храмы і манастыры. Дык будзем-жа ўдзячныя Богу і будзем памятаць словы Збавіцеля: *«Няхай будуць усе адно: як Ты, Айцец, ува Мне, і Я ў Табе, так і яны няхай будуць адно»* (Ін. 17, 21).

У адзінстве і любові Хрыстовай нашае выратаваньне. Жадаю Зьезду Беларусаў сьвету паслужыць справе нацыянальнага яднаньня і духоўнага адраджэньня Беларусі!

Божае благаславеньне вам! Няхай покрыў Найсьвяцейшай Багародзіцы Жыровіцкай і Менскай і малітва Беларускіх сьвятых заўсёды будуць з вамі.

† Митрополит Филарет.

Мітрапаліт Менскі і Слуцкі
Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі.



Мінскі Пётра-Паўлаўскі манастыр, 1763

# ПАД БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫМ СЬЦЯГАМ

## Першы. Беларускі. Сусьветны

Сьвятлана Менская

Лета 1993 года выдалася гарачым у палітычным жыцьці Беларусі

25-27 чэрвеня ў Менску, Заслаўі, Слуцку сьвяткавалася 200-годзьдзе Менскай япархіі

26 чэрвеня адбыўся III зьезд БНФ.

28 чэрвеня ў Горадні, у Горадзенскім унівэрсытэце імя Янкі Купалы адкрылася міжнародная навуковая канфэрэнцыя «Рым—IУ».

6 ліпеня прайшла III Усебеларуская палітычная канфэрэнцыя.

8 ліпеня пачаўся Першы зьезд беларусаў сьвету.

Ехалі на зьезд беларусы з розных месцаў, каб нарэшце аб'яднацца ў імя беларускай ідэі, выпрацаваць яе да канца, адчуць, што яны жывуць для Беларусі,дзеля сваёй Бацькаўшчыны, дзеля дабрабыту сваіх дзяцей. Перад гэтай гістарычнай падзеяй было многа спрэчак: праводзіць або не праводзіць зьезд, ехаць на яго або ня ехаць. Але, дзякуй Богу, зьезд адбыўся, і беларусы сабраліся ўсе разам. Прыехалі на яго з 23 краінаў сьвету: і з блізкага замежжа, і з далёкага—больш за 1.200 чалавек. Самай шматлікай дэлегацыяй былі беларусы Амэрыкі—108 асобаў. Ну а самай шматлікай амэрыканскай групай была кліўлендзкая: 40 чалавек. Прыехалі на зьезд: Міхась Белямук, Кацярына Валюкевіч з сынам Янкам, Яніна Кабылянец, Аўген Кабяка, Вера Каваленка, Дар'я Каваль, Кастусь Калоша, Тацьцяна Кананчук, Сяргей Карніловіч, Уладзімір Кох, Ніна Купрэвіч, Вольга Лукашевіч, Натальля й Анатоль Лукьянчыкі з дачкой Аленай, Аляксей Міраеўскі, Галіна Мароз, Сьцяпан Махахей, Лідзія і Міхась Мітраховічы з сынам Андрэем, Марыя Несьцер, Марыя Патапенка з сынам Віктарам, Язэп Радзюк, Янка Раковіч, Аня Рудзеўская, сп-ва Сергіевічаў, Марыя Сліўка, сп-ва Шыкалюкоў, Янка Шымчык, сп-ва Хопка, Валянтына Ягаўдзік з сынам Аляксандрам, Валянтына Яцэвіч, Эва Ярахові́ч.

Аб тым як праходзіў зьезд, якія ўражаньні пакінуў ён у сэрцах ягоных наведвальнікаў— аб гэтым наш рэпартаж.

Пасьля доўгага пералёту праз акіян Беларусь паказалася беларусам роднай і сваёй. Іх сустрэлі знаёмыя, сябры, сваякі, рэпарцёры, тэлежурналісты як самых блізкіх, самых жаданых, самых родных людзей. І першая думка, якая ўзьнікла, пасьля абдымкаў, пацалункаў, першых вітаньняў: «Нарэшце, мы дома».

Так, дома, бо сіла прыцягненьня роднай зямлі, роднасьць яе пачуцьцяў—мабыць, самыя вялікія ў сьвеце. А Беларусь, свая, беларуская. Хоць і моцна зьмянілася яна з часоў іхняга дзяцінства й юнацтва, стала інакшая, чымсьці ў даўніх ўяўленьнях і снах аб Бацькаўшчыне. І людзі яе свае. Беларусы. Хоць таксама іншыя, нават бальшынёю сваёй рускамоўныя. Але, як казала Ларыса Геніюш, сьветлы геній беларускай нацыі: *«На роднай зямельцы ўсе мы ня госьці, усе мы чыесьці, усе мы кагосьці. Хоць спарахнелі дзядоў нашых косьці, у нашай натуры ёсьць іхняе штосьці».* Сапраўды, беларусы прыехалі дамоў. І ўвесь час знаходжаньня на Бацькаўшчыне яны адчувалі сябе дома, а не ў гасьцях.

Першы прадзьездаўскі дзень, 8 ліпеня быў прысьвечаны двум падзеям. У Менску праводзілася III Усебеларуская палітычная канфэрэнцыя, арганізаваная БНФ, а ў Наваградку адбыліся ўрачыстасьці, прысьвечаныя каранацыі князя Міндоўга.

Экскурсіі па старажытных гарадах Мір і Наваградак. Знаёмства зь Мірскім замкам і пакланеньне рэшткам Наваградзкага, некалі аднаго з магутнейшых замкаў у Беларусі. Канцэрт, у якім, як у люстэрку, адбіліся старонкі слаўнай беларускай гісторыі

*«А пасьля Наваградка мы паехалі на Купальле ў Сталбцоўшчыну, на прыгожы высокі бераг ракі, адкуль паплылі па Нёману нашыя купальскія вянкі. Накрапваў дробны дожджык, вецер гнаў нізкія хмары, але на душы было цёпла ад купальскіх вогнішчаў, ад людзкой шчырасьці, і галоўнае ад прыгожай беларускай песьні, якая ёсьць вялікае багацьце беларусаў. Столькі калектываў зьехалася на Купальле, столькі таленавітых музыкаў, сьпевакоў, танцораў сабралося ў адным мейсцы, што мы толькі дзівіліся. Было хораша, як ніколі, бо мы былі на сваёй зямлі, сярод сваіх людзй і культуры»* — дзялілася сваімі ўражаньнямі Вольга Лукашэвіч, кіраўнічка жаночага хору «Васілёк».



**На Купальлі. Удзельніцы сьвята Вольга Лукашэвіч (зьлева) і Валянтына Ягаўдзік.**

А на паліткафэрэнцыі ў Доме літаратара ішла размова аб палітычнай сытуацыі ў сучаснай Беларусі, абмяркоўваліся прынцыпы канстытуцыйнага і дзяржаўнага ладу дэмакратычнай незалежнай Беларусі, давалася палітычная ацэнка рашэньняў 2-й Бэрлінскай канфэрэнцыі.

*«Беларуская нацыя перажывае катастрафічны пэрыяд у сваёй гісторыі. Пасьля кароткага ўсплёску надзеі на ажыцьцяўленьне доўгачаканай сувэрэннасьці, дзяржаўнасьці, магчымасьці разумнага гаспадарыньня на сваёй, Богам данай зямлі, нацыя пазнала люты вострa таталітарны сындром.»* — Гэтымі словамі пачаў сваю прамову Васіль Быкаў.

З дакладам аб сёньняшняй сытуацыі ў Беларусі выступіў таксама Зянон Пазьняк. Яго даклад датычыўся многіх пытаньняў: дэмакратычных выбараў, даверу да Старшыні Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь Станіслава Шушкевіча, беларускага войска, беларускага друку, беларускай валюты, беларускай мовы. Кебічаўская забарона маладзёжнай вечарыны, прысьвечанай 50-годзьдзю арганізаваньня Саюзу Беларускай Моладзі разглядалася ім як праява адраджэньня камуністычнага самаўладзьдзя. Зянон Пазьняк прадставіў таксама некаторыя палажэньні палітыкі БНФ.

*«Народны Фронт і «Грамада», —адзначыў ён, —выступаюць за парлямэнтскую рэспубліку, дзе мусіць выбірацца Прэзыдэнт,*

*як кіраўнік дзяржавы. Мы патрабуем напачатку выбары парлямэнту і толькі праз 6 месяцаў пасьля парлямэнцкіх выбараў прыступаць да прэзыдэнцкіх. Такі падыход стварае ўмовы і дае мажлівасьць для дэмакратычнага разьвіцьця краіны»*

Выступілі таксама дэпутат Вярхоўнага Савету Алег Трусаў, які паінфармаваў аб гісторыі Адраджэньня беларускай дзяржаўнасьці і расказаў аб яе сёньняшніх кроках; старшыня Аб'еднанай дэмакратычнай партыі Беларусь Аляксандр Дабравольскі, які расказаў аб перашкодах на шляху дэмакратызацыі і палажэньнях ствараемай Канстытуцыі, у якой забесьпячэньне і прызнаньне дэмакратыі мусіць быць асноўнымі яе прынцыпамі. Рэдактар газэты «Беларус» Янка Запруднік пазнаёміў удзельнікаў канфэрэнцыі зь некаторымі дакумэнтамі БНР, бо « вурокі гісторыі паўтараецца сёньня». Ад управы Беларускай асацыяцыі ахвяраў палітычных рэпрэсыяў слова меў Юры Штыхаў. Выступалі таксама прадстаўнікі арганізацыяў блізкага і дальняга замежжа, іншыя ўдзельнікі канфэрэнцыі.

7 ліпеня быў днём адпачынку і вернісажаў. На возеры Нарач, адной з блакітных перлаў Беларусі, адкрыўся Нарачанскі форум для дзяцей і моладзі. У менскім Палацы мастацтва адбылося адкрыцьцё выстаўкі «Жыве Беларусь», а ў парку імя Янкі Купалы прайшло сьвята паэзіі «Палымянае слова Купалы». А яшчэ гэта быў дзень сустрэчаў, бо, нарэшце, беларусы з Амэрыкі, Польшчы, Аўстраліі, Бэльгіі, Нямеччыны ды Летувы,Латівіі, Эстоніі, Украіны, Казахстану,Расеі,разам зь беларусамі Беларусі, нязмучаныя дыскусыямі і выступленьнямі маглі пасьля многіх гадоў разлукі сустрэцца, пагаварыць. Аб жыцьці, аб плянах, аб Беларусі.

І вось 8 ліпеня, урачыстае адкрыцьцё Першага зьезду беларусаў сьвету.



**Адкрыцьцё Першага зьезду беларусаў сьвету. Зьезд вітае Васіль Быкаў.**

Пад гукі Багдановічаўскай неўміручай Пагоні, якая яднала і працягвае яднаць беларусаў, не дае ім чужынцамі быць, нават за тысячы кіламетраў ад роднай Маці—краіны. Пад гукі апладысмэнтаў шматлікіх удзельнікаў гэтага форуму, якія сабраліся ў тэатры опэру і балету . Пад прывітальнае слова сустаршыні аргамітэту зьезду Васіля Быкава.

«*Нацыя,—сказаў ён,—як і кожны грамадзкі арганізм або пэўная гістарычная супольнасьць, падпарадкавана чалавечым законам супольнага існаваньня. Мусіць найпершы зь іх, ён-жа і самы бясспрэчны, у тым, каб жыць сваёй сям'ёй, на сваёй, Богам данай зямлі. Парушэньне гэтага імпэратыву непазьбежна цягне за сабой безьліч гістарычных калізіяў, невырашальных канфліктных сытуацыяў. Усё тое мы бачым як на знакамітых уроках сусьветнай гісторыі, так і на красамоўных прыкладах сучаснасьці*».

Васіль Быкаў падкрэсьліў, што *«мы змагаемся за нацыянальную і дэмакратычную Беларусь, але тое змаганьне далёка не закончана»*

Пасьля хвіліны маўчаньня ў гонар загінуўшых беларусаў, якія зрабілі ўсё магчлівае, каб, нарэшце, прыйшоў гэты гістарычны дзень яднаньня, Васіль Быкаў перадаў слова Старшыні Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь Станіславу Шушкевічу.

*«Асабіста я—падкрэсьліў Станіслаў Шушкевіч,—перакананы, што ўсе мы сёньня з Вамі зьяўляемся ўдзельнікамі падзеі гістарычнай. Першы раз за многія гады без прымусу, без падказкі сабраліся беларусы на сваё сьвята, на свой першы зьезд. Ня ведаю, ці многія з Вас былі ўпэўнены ў тым, што мы дажывем да такой падзеі. Я на такое не спадзяваўся. Я спадзяваўся, што гэта будзе лёсам маіх дзяцей або ўнукаў. Але тое, што мы з Вамі дажылі да гэтай падзеі, азначае, што гісторыя будзе... Тысячы беларусаў, тысячы людзей, якія лічаць Беларусь сваёй Бацькаўшчынай...не дажылі да гэтага моманту. Яны былі ўцягнуты ў вадаварот падзеяў, якія згуртавалі іх нябісты лёс. Я думаю, мы з вамі заўсёды павінны памятаць аб тых, хто аддаў свой талент, свой розум, за тое, каб мы з Вамі тут сабраліся.Мы нямаем маральнага права траціць той шанс, які нам дала гісторыя. Мы павінны выкарыстаць гэты шанс і пабудаваць беларускую дзяржаву, якая была-б дастойным партнерам для любой дзяржавы у сусьветнай супольнасьці.*

*Як ніколі нам патрэбна ідэя, якая-б аб'ядноўвала ўсе патрыятычныя рухі. Да гэтага часу гэтай ідэяй зьяўляецца ідэя супрацьстаяньня камуністычнай ідэі. А нам патрэбна ідэя стваральная. І мы павінны выпрацаваць яе.»*

Ад імя Таварыства Беларускай Мовы выступіў Ніл Гілевіч.

«*Галоўная ідэя зьезду,*—сказаў ён,—*аб'ядноўваньне. Гэта нашая першая спроба сабрацца разам, каб пагаварыць пра тыя супольныя задачы, што вынесены перад усімі намі ў гэты незвычайны для нашай Бацькаўшчыны час.Сэнс іх,гэтых задач, зводзіцца да аднаго: практычна забясьпечыць тое, што абвешчана дэкляратыўна —пабудаваць свабодную, дэмакратычную, сувэрэнную дзяржаву Беларусь.*

*Нам ёсьць у імя чаго аб'ядноўвацца. Ёсьць супольны, сьвяцейшы алтар, каб на яго пакласьці свае найдарагія ахвяраваньні, лепшыя сілы душы і сэрца, а калі трэба і само жыцьцё. Згуртаваньню нашых сіл перашкаджаюць ня толькі аб'ектыўныя ўмовы, але і пэўныя прычыны суб'ектыўнага характару. Перашкаджае нашая негатоўнасьць да гэтага на ўзроўні сьвядомасьці,*

*псыхалёгіі, палітычнай і агульнай культуры.*

*Для беларусаў наступіў самім Богам наканаваны час зьбіраць каменьні. Да гэтага мы рабілі ўсё магчымае і немагчымае, каб разрозьніць беларусаў паміж сабой. Каб аддаліць беларусаў ад Беларусі. Хочацца верыць, што, нарэшце, гэтае нашае самаедства мы канчаем назаўсёды.*

*Сёньня ў працэс Адраджэньня ўключаюцца людзі ўсіх сфераў грамадзкага жыцьця. Аб'яднацца—задача гэтая застаецца. Мы павінны разбудзіць ад сьпячкі ўвесь беларускі народ. Павярнуць усіх нашых грамадзян да вялікай ідэі Адраджэньня Беларусі. Зрабіць так, каб літаральна кожны беларус усьвядоміў, што й ад яго залежыць будучыня Беларусі. Гэта наш абавязак».*

Асноўны даклад ад сусьветнай беларускай супольнасьці «Беларуская ідэя й адбудова беларускай дзяржаўнасьці» зрабіў Радзім Гарэцкі.

*«Сёньня ўпершыню сабраўся вялікі сход.—Першы зьезд беларусаў сьвету. Сабраўся, вядома-ж не ў зорныя часы для Беларусі. Развал эканомікі, беднасьць, палітычная нестабільнасьць, відавочнае ажыўленьне рэакцыйных сіл, а да ўсяго —Рэспубліку ахінулі густыя хмары злавеснага Чарнобыля. Былі сумненьні, у тым ліку і ў дэмакратычных сілаў, а ці трэба праводзіць у такі час зьезд? Але хто сёньня можа адказаць, калі надыдзе менавіта прыдатны час? У традыцыях беларусаў, якіх вучыў векавы горкі лёс—з карысьцю выкарыстоўваць любы шанц.*

*Шанц—першы раз за многія дзесяцігодзьдзі—выдаўся нам сабрацца разам. Сабрацца дзеля таго, каб сумесна памеркаваць, якія і ў якім кірунку патрэбны нашыя высілкі, каб знайсьці дарогу й ісьці ёю да зорнага часу Беларусі, якога даўно, заслужыў наш вельмі працавіты, шчыры, лагодны, памяркоўны і тым ня менш шматпакутны беларускі народ.*

*Рэспубліка Беларусь ступіла на шлях сувэрэннасьці, незалежнасьці, будаўніцтва ўласнай дзяржаўнасьці. Але тут-жа трэба заўважыць, што гістарычны вопыт беларускай дзяржаўнасьці пакуль не выкарыстоўваецца, капіруецца замежны і ў асноўным для нас чужы. Парасткі новага ладу і жыцьця яшчэ невялікія і даволі кволыя —нам пакуль няма падставаў самазахапляцца ці хоць самазаспакойвацца. Наш сувэрэнітэт, незалежнасьць, дзяржаўнасьць могуць быць і раздушаны—такая небясьпека сёньня, нажаль, вельмі рэальная. І мы павінны зрабіць усё, каб добрыя працэсы, якія пачаліся, набылі незваротную сілу.»*

Даклад ад ураду Рэспублікі Беларусь «Эканамічная сытуацыя і магчымасьці выхаду з крызысу» зрабіў намесьнік Старшыні Савету Міністраў Міхаіл Дзямчук.

*«Намі прыянта ўрадавая праграма «Беларусы ў сьвеце», якая накіравана на вырашэньне некалькіх узаемазьвязаных задач. Першая задача—выявіць і вывучыць геаграфію нашай дыяспары, ідэйны стрыжань існаваньня кожнай зь беларускіх суполак у замежжы. Другая задача—праграма павінна працаваць на разьвіцьцё беларускай дыяспары. І трэцяя задача—праграма павінна мець сваёй канчатковай мэтай уключэньне ў справу нацыянальна-культурнага адраджэньня ўсёй беларускай дыяспары.»*

У гэты дзень выступілі таксама Янка Запруднік і Яўген Лецка. А вечарам адбыўся прыгожы канцэрт, у якім прынялі ўдзел найлепшыя калектывы рэспублікі.

9 ліпеня быў адзначаны як дзень працы круглых сталоў і сустрэчам па інтарэсах. Што першаснае: эканоміка або культура? У

якіх сфэрах беларусы Бацькаўшчыны і замежжа могуць супрацоўнічаць? Калі будзе створана дасканалая беларускамоўная царкоўная літаратура? Каму будзе належаць сёньняшняя дзяржаўная маёмасьць? Якое ёсьць сёньняшняе экалягічнае становішча ў Беларусі? Гэтыя і многія іншыя пытаньні падымаліся на круглых сталах, якія былі прысьвечаныя праблемам беларускай дзяржаўнасьці, культуры, гаспадаркі і прадпрыймальніцтва, беларускай дыяспары. Асобная сэкцыя была прысьвечана праблемам Беларусі пасьля Чарнобыльскай катастрофы.

У Нацыянальным навукова-асьветным цэнтры імя Ф.Скарыны адбылося адкрыцьцё выстаўкі «Беларусы ў сьвеце», а на на будынку цэнтру была адкрытая мэмарыяльная дошка ў гонар Максіма Гарэцкага.

У гэты дзень у Акадэміі навук Беларусі, у Доме літаратара, у клюбе «Спадчына», у штаб-кватэры БНФ, музэях Янкі Купалы і Якуба Коласа, Акадэміі мастацтваў і Акадэміі фізкультуры і спорта, бібліятэках адбыліся сустрэчы па інтарэсах удзельнікаў зьезду з творчай і навуковай інтэлігенцыяй Беларусі, з моладзьдзю і прадстаўнікамі жаночага хрысьціянска-дэмакратычнага руху. У Нацыянальнай бібліятэцы адбылася перадача ў фонды крупнейшай бібліятэкі Рэспублікі больш за 400 кнігаў, часопісаў і брашураў, выдадзеных у Беларусі і на эміграцыі з 1920 г. да 1992 г. Кнігі перадаў старшыня Беларускага Інстытута Навукі і Мастацтва Вітаўт Кіпель, якому ў час правядзеньня міжнароднай канфэрэнцыі «Рым—IУ», прысьвечанай праблемам узаемадзеяньня нацыянальных і рэгіянальных



На вечарыне клюбу «Спадчына», 9 ліпеня 1993 г.
Зьлева направа: Міхась Белямук, Кастусь Калоша, Анатоль Белы, Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін

культураў, культурнаму памежжу Беларусі, Летувы, Польшчы і Украіны, Гарадзенскі ўнівэрсытэт надаў званьне Ганаровага доктара гістарычных навук. (Гл. б.63)

Многія кліўлендцы пабывалі ў той дзень на вечарыне Менскага грамадзка асьветніцкага клюбу «Спадчына», на якой беларусаў Амэрыкі віталі старшыня клюбу Анатоль Белы, пісьменьнікі Васіль Быкаў і Рыгор Барадулін, кампазітар Зьмітрок Яўтуховіч, сьпявачка Галіна Смоляк, мастак Яўген Ціхановіч, фальклёрная група клюба «Спадчына», папулярны ансамбль «Сябры» й інш.

10 ліпеня, заключны дзень работы зьезду, з агульнай згоды дэлегатаў аформіў сваё пасяджэньне як зьезд Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына». Пасьля выступленьняў дэлегатаў, падагульненьня работы круглых сталоў, прыняцьця выніковых дакумэнтаў, адбыліся выбары кіруючых і каардынуючых ворганаў згуртаваньня «Бацькаўшчына». На пачэсную пасаду прэзыдэнта «Бацькаўшчыны» быў выбраны віцэ-прэзыдэнт АН Беларусі Радзім Гарэцкі, а старшынёй рады ЗБС абрана дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіву-музэя літаратуры і мастацтва. Ганна Сурмач. Пасьля падвядзеньня вынікаў зьезд закончыў сваю работу. Як адзначыў акадэмік Радзім Гарэцкі: *«Задача зьезду была аб'яднацца, згуртавацца. І першы рух да такога аб'яднаньня ў нас адбыўся. Гэта самы галоўны вынік нашай сустрэчы, пачатак нашай сумеснай працы па стварэньню незалежнай дзяржавы.»*.

Пачатак зроблены. Тры дні лета 1993 сталі нашай надзеяй, верай у Адраджэньне і новае спатканьне. А наступная сустрэча не за гарамі. Яна адбудзецца праз чатыры гады. Так што да лета 1997 году, да Другога зьезду беларусаў сьвету!



На вечарыне клюбу «Спадчына», 9 ліпеня 1993 г.

# Дакумэнты*
# Першага зьезду беларусаў сьвету

## *Зварот беларусаў замежжа, удзельнікаў Першага зьезду беларусаў сьвету*

Беларускі Народзе!

Мы, Тваe сыны й дочкі, разьнесеныя па цэлым шырокім сьвеце вятрамі нядолі, што напаткала наш край, зьехаліся з Поўначы й Поўдня, з Усходу й Захаду ў сталіцу суверэннай Беларускай Дзяржавы—Менск, каб удыхнуць гаючае паветра роднай зямлі, наталіць вочы лагоднымі беларускімі краявідамі, сустрэцца з дарагімі сэрцу сваякамі й суродзічамі, адчуць цеплыню іхных душаў. У лучнасьці з Бацькаўшчынай, гэтай жыватворнай духовай крыніцай, тоіцца сакрэт нашага супольнага выжываньня, вытрываласьці ды перамогі над усімі цяжкасьцямі й перашкодамі на шляху да свабоды й дабрабыту.

Божай воляй мы дачакаліся часу, калі можам зьязджацца з цэлага сьвету ў цудоўны край свайго паходжаньня, на свае вочы аглядаць яго, адчуваць пульс ягонага жыцьця, разам цешыцца і разам хваляваца ды супольнымі намаганьнямі шукаць выйсьця зь няпростага становішча. Мы ганарымся і радуемся, што Беларусь узыйшла на шлях нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва. Мы шчасьлівыя, што Бацькаўшчына ізноў сталася арганічнай часткай нашага быту, мрояў, надала большага сэнсу і мэтанакіраванасьці нашым намаганьням. У гэтай супольнасьці —зарука таго, што эканамічная й культурная адбудова беларускай дзяржаўнасьці будзе ісьці далей.

Мы заклікаем усіх вас, дарагія Суродзічы, да веры ў Беларусь, да патрыятызму, да дзеяньняў у імя свабоднай дэмакртычнай Беларускай Дзяржавы. Вера ў свой народ, у ягоныя здольнасьці, у лепшую яго будучыню — гэта вялікая стваральная сіла. У гэтым пераканаліся мы, пражыўшы дзесяцігодзьдзі на чужыне з думкамі пра Родны Край. Вера у самых сябе, у тое, што з намі Бог, дапаможа нам і цяпер, калі мы разам, супольнымі сіламі выйдзем на шырэйшыя шляхі ўлепшую будучыню.

## *Зварот да беларускага народу*

Браты і сёстры!

Доўгія і складаныя пуцявіны вялі да паяднаньня беларускай нацыі, воляю лёсу раскіданай у сьвеце. Амаль усе эўрапейскія народы ўжо даўно перажылі свае станаўленьне ў якасьці нацыянальнага адзінства. Перамогі, страты згуртавалі іх, умацавалі іх сілу і волю ў імкненьні да самастойнага жыцьця. Беларусы-ж усё яшчэ пакутваюць на раздарожжы свайго гістарычанага шляху.

Але надыйшоў час вырашаць свой лёс. Цяпер, альбо ніколі. Беларусь атрымала гістарычны шанц набыць рэальную дзяржаўнасьць, самастойнасьць, поўны сувэрынітэт. І гэты шанц неабходна выкарыстаць.



* Дакумэнты прыняты 10 ліпеня 1993 г.

Мы павінны мабілізаваць усе сілы, каб ня толькі адстаяць першыя поступы дэмакратыі, незалежнасьці, нацыянальнага адраджэньня, але і рушыць далей, да вялікіх зорных зьдзяйсьненьняў—адбудовы агульнага Беларускага Дому. Гэтую высокую, наканаваную Богам місію, мы здолеем выканаць толькі тады, калі адбудзецца ўсенароднае абуджэньне да сьвядомага нацыянальнага жыцьця, калі вернем сабе гістарычную памяць, якую у нас адбіралі цэлыя стагодзьдзі, глыбока ўсьвядомім, хто мы ёсьць і кім павінны быць у гэтым сьвеце. Мы можам ажыцьцявіць гістарычную справядлівасьць і назаўсёды замацаваць незалежную Беларусь на карце Эўропы, не як геаграфічнае паняцьце, а як шанаваную поўнавартасную дзяржаву беларускага народу й іншых народаў, што здаўна жывуць на нашай зямлі.

Дасягнуць гэтага можна толькі аб'яднаўшы сілы беларусаў на Бацькаўшчыне і тых яе адданых дзяцей, што жывуць па-за межамі Беларусі, але захавалі ў сваіх сэрцах любоў да яе. Адольваючы ўсе перашкоды і нагоды, мы зможам дайсьці да жаданай свабоды, зладзіць цывілізаванае, заможнае і культурнае жыцьцё для сябе і сваіх нашчадкаў.

Жыве нашая Бацькаўшчына!

Жыве Беларусь!

## *Дэкларацыя*
## *аб прынцыпах нацыянальнага дзяржаўнага будаўніцтва*

Першы зьезд беларусаў сьвету адбываецца ў год сьвяткаваньня 75-х угодкаў абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі. Дзеячы БНР распачалі працэс практычнага адраджэньня беларускай дзяржаўнасьці. Цяпер стварыліся рэальныя ўмовы для яго пасьпяховага завяршэньня. 27 ліпеня 1990 г. Вярхоўны Савет прыняў, а 25 жніўня 1991 г. надаў сілу Канстытуцыйнага закона «Дэкларацыі» аб незалежнасьці Беларусі».

Гэтыя акты стварылі юрыдычны падмурак для адбудовы новай беларускай дзяржавы на прынцыпах незалежнасьці, дэмакратыі, павагі да правоў асобы і права беларускага народу на нацыянальнае адраджэньне.

Рэалізацыі гэтай спрадвечнай мары беларусаў у цяперашніх умовах спрыяюць як унутраныя, так і міжнародныя абставіны і таталітарная сацыяльна-палітычная сыстэма ў Беларусі аб'ектыўна вычарпала свае магчымасьці і ня мае гістарычнай пэрспектывы. На абсягах былой савецкай імпэрыі распачаліся працэсы сувэрынізацыі, нацыянальнага й эканамічнага адраджэньня многіх народаў, якія павінны набыць незваротны характар. Толькі пры ўмове дакладнага разуменьня асаблівасьцяў гістарычнай сытуацыі ўсімі палітычнымі сіламі грамадзтва зьявяцца падставы для нацыянальнага аб'яднаньня дзеля сумеснай працы на карысьць нашай Бацькаўшчыны, яе палітычнага, гістарычнага і культурнага адраджэньня. Мы, удзельнікі Першага зьезду беларусаў сьвету, бачым будучыню вольнай дэмакратычнай Беларусі як унутранай, прававой, бязьядзернай дзяржавы, якая праводзіць палітыку міру й узаемакарысных добрасуседзкіх адносін з усімі краінамі сьвету, якая мае разьвітую эканоміку, заснаваную на розных формах

уласнасьці, гарантуе сваім грамадзянам агульнапрызнаныя правы чалавека і клапоціцца пра стварэньне спрыяльных умоваў для разьвіцьця культуры беларускага народу, якая прызнае найвышэйшай мэтаю дасягненьне агульнага дабра і сацыяльнай справядлівасьці ў грамадзтве.

Мы лічым, што распачаць гэтую агромістую працу можа і павінен новы парлямэнт, абраны на падставе дэмакратычнага закону, які створыць умовы для аб'ектыўнага волевыяўленьня народу. Улічваючы небясьпечны стан эканомікі і відавочную няздольнасьць сёньняшняй улады ажыцьцявіць карэнныя і хуткія палітычныя й эканамічныя рэформы, якія-б разьняволілі творчую актыўнасьць народу, мы заклікаем народных дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь прысьпешыць новыя выбары. Цяперашні склад Вярхоўнага Савета прыняў шэраг прынцыпова важных рашэньняў і ўжо па гэтай прычыне застанецца ў гісторыі Беларусі. Але дзеля дабра нашага народу і захаваньня ўласнай годнасьці ён мусіць зрабіць апошні адказны крок —забясьпечыць канстытуцыйны і мірны шлях да пабудовы сапраўды незалежнай і заможнай Беларускай дзяржавы,такі шлях ёсьць — гэта правядзеньне рэферэндуму, за які выказаліся каля 440 тыс. грамадзян Беларусі. Грамадзкая згода і супрацоўніцтва — гэта тыя каштоўнасьці, якія павінны быць захаваны.

Найважнейшы прынцып адбуовы беларускай дзяржаўнасьці —правядзеньне палітыкі нейтралітэту. Імкненьне да гэтага зафіксавана ў Дэклярацыі аб незалежнасьці. Таму няма падставаў для далучэньня да якіх-небудзь ваенных саюзаў. Права на нейтралітэт Беларусь выпакутавала й акупіла незлічонымі ахвярамі ў многіх войнах.

Свабода—гэта найважнейшая каштоўнасьць. Толькі свабода, падмацаваная сваёй дзяржаўнасьцю, стварае ўмовы для самарэалізацыі ўсіх патэнцыяльных магчымасьцей народу. Мы жывем у час, калі гэта адвечная мара беларуса ў можа быць зьдзейсьнена. .Будзем-жа годнымі ў складзенай на нас лёсам высокай місіі.

Жыве Беларусь!

## *Заява*
## *Ўдзельнікаў Першага зьезду беларусаў сьвету па вайсковаму пытаньню*

Зьезд выказвае свой вялікі непакой сытуацыяй, якая склалася ў войску незалежнай Беларусі—аднаго з найважнейшых дзяржаўных інстытутаў, безь якога, як вынікае з гістарычнага вопыту нашага й іншых народаў, немагчыма гарантаваць самое існаваньне дзяржавы.

Зьезд адзначае, што Беларусь, утрымліваючы за свой кошт непамерна вялізарную збройную сілу, дагэтуль ня мае надзейнага, адданага справе абароны беларускай дзяржаўнасьці войска. У тых вайсковых адзінак, якія зараз называюць узброенымі сіламі Беларусі, пануюць негатыўныя, пагардлівыя адносіны да яе незалежнасьці і нацыянальнага адраджэньня. Большасьць вайскоўцаў варожа ставяцца да беларускай мовы ,не спыняюцца

спробы фальсыфікацыі беларускай гісторыі, асабліва тых яе пэрыядаў, якія зьвязаны з войнамі супраць усходняга дэспатызму. Дагэтуль у вайсковай вопратцы ужываецца камуністычная імпэрская сымболіка, у войску не спыняецца, і нават пашыраецца, перасьлед патрыятычна настоеных вайскоўцаў. Шаленаму цкаваньню падвяргаюцца сапраўдныя патрыёты Беларусі, да канца адданыя ідэі беларускай незалежнасьці й Адраджэньня- сябры беларускага згуртаваньня вайскоўцаў, якія некалі ва ўмовах супрацьдзеяньня з боку асоб, зараз кіруючых беларускімі ўзброенымі сіламі, распрацавалі канцэпцыю стварэньня Беларускага войска, і шмат зрабілі для яе прапаганды і рэалізацыі. Кіраўніцтва міністэрства абароны перашкаджае пераводу на Радзіму афіцэраў-беларусаў. Нізкія маральны стан і дысьцыпліна ў войску абумоўлены няздольнасьцю вайсковага кіраўніцтва наладзіць выхаваўчую працу на груньце беларускага патрыятызму. Зьезд лічыць, што асноўнай прычынай захаваньня такога становішча ў войску зьяўляецца ўрадавая вайсковая палітыка, пры якой на ключавыя пасады ва ўзброеных сілах прызначаюцца асобы, якія адмоўна ставяцца да незалежнасьці Беларусі, яе адраджэньня і сьвядома перашкаджаюць стварэньню сапраўды беларускага войска.

Зьезд патрабуе ад урада Беларусі рашучых захадаў па неадкладнай беларусізацыі войска й навядзеньні парадку ў ім. Зьезд таксама патрабуе аднаўленьня вайсковай службы падпалкоўка Міколы Статкевіча й іншых адстаўнікоў БЗВ , пакараньня віноўных у іх незаконным звальненьні.

## *Пастанова зьезду*
## *аб радзе прадпрымальнікаў беларускай дыяспары*

1.Першы зьезд беларусаў сьвету падтрымлівае стварэньне пры Згуртаваньні беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» Рады прадпрымальнікаў беларускай дыяспары і яе імкненьні, накіраваныя на падтрымку нацыянальна-культурнага адраджэньня і хутчэйшую інтэграцыю эканомікі краіны ў сусьветнае супольніцтва

2.Прасіць Вярхоўны Савет і Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь у мэтах спрыяньня дзейнасьці Рады прадпрымальнікаў беларускай дыяспары і створаных на яе аснове эканамічных структур прыняць адпаведныя пастановы і рашэньні.

3.Прасіць Міністэрства замежных справаў праз пасольствы, консульствы і прадстаўніцтвы Рэспублікі Беларусь аказаваць неабходную дапамогу і спрыяньне ў эканамічнай дзейнасьці Рады прадпрымальнікаў беларускай дыяспары й яе прадстаўнікоў

4. Прасіць Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь аказаць спрыяньне Радзе прадпрымальнікаў беларускай дыяспары ў стварэньні міжнароднага цэнтра прадпрымальніцтва ў г. Менску.

Таксама былі прыняты:

*Зварот удзельнікаў Першага зьезду беларусаў сьвету да Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб устанаўленьні мэмарыяльнай дошкі на будынку, дзе была абвешчана Беларуская Народная Рэпубліка»,*

*Рэзалюцыя Першага зьезду беларусаў сьвету «Аб падтрымцы дзейнасьці Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына».*

# Stanislaw S.Shushkevich, Chairman, Supreme Soviet of the Republic of Belarus met with U.S. President Clinton

**Washington**, D.C. Wednesday, July 21 through Friday, July 23, Chairman of the Supreme Soviet of the Republic of Belarus Stanislav S. Shushkevich visited Washington, D.C. to hold meetings with President Bill Clinton, selected Cabinet Members and Congressional Leaders.

Chairman Shushkevich was the first leader of the newly independent states of the former Soviet Union, to be invited to Washington for an official visit and meeting with President Clinton.

Thursday, July 22, Chairman Shushkevich had a meeting with President Clinton at the White House. The meeting's purpose was to continue building a close, friendly, and mutually productive relationship between the United States and the Republic of Belarus.

Chairman Shushkevich deposited the instrument of accession of the Republic of Belarus to the Non-Proliferation Treaty. On the same day the instruments of accession were also deposited with the Governments of the Russian Federation and the United Kingdom the two other depositaries of the NPT.

President Clinton noted that Belarus is the first of the newly independent states of the former Soviet Union to fully honor its commitments under the Lisbon Protocol to ratify START and accede to forefront of the global effort to safeguard mankind from the threat of nuclear destruction.

The two leaders also stressed the strong interest in expanding economic ties, particularly in trade and investment opportunities.

The summit meeting was concluded with the approval by the two leaders of the Joint Declaration on Relations between the United States of America and the Republic of Belarus.

In the framework of the visit, on July 22, Secretary Aspin and Belarus Minister of Defense Pavel Kazlouski signed three agreements to help ensure the safety, security and dismantlement of former Soviet nuclear weapons in Belarus. The agreements provide $59 million in addition direct U.S. assistance to the Republic of Belarus, bringing total U.S. assistance to Belarus to approximately $75 million.

The $59 million in funds will help Belarus meet its goal of becoming a non-nuclear state and will be used in three areas:

Up to $25 million for environmental restoration of former Soviet Strategic Rocket Forces sites;

Up to $20 million for defense conversion, and to help proved military housing and retraining programs for decommissioned Strategic Rocket Force offers; and

Up to $14 million for export control assistance to prevent the proliferation of technology and material for weapons of mass destruction.

Chairman Shushkevich also met with the leadership of the International Monetary Fund, the World Bank and with business people.



# Старшыня Вярхоўнага Савету Беларусі ў Вашынгтоне

Расьціслаў Завістовіч

На запросіны Прэзыдэнта Злучаных Штатаў Амэтрыкі Біла Клінтана, Старшыня Вярхоўнага Савету Беларусі Станіслаў Шушкевіч наведаў Вашынгтон. Пад час трохдзённага прабываньня ў ЗША беларускай парлямэнцка-ўрадавай дэлегацыі на чале з Шушкевічам, афіцыйнае спатканьне паміж Прэзыдэнтам Клінтанам і Старшынёй Вярхоўнага Савету адбылося ў Белым Доме 22 ліпеня, а 23 ліпеня 1993 г. а 7 гадзіне вечара беларускае пасольства ў Вашынгтоне ладзіла банкет у гонар старшыні беларускага парлямэнту.

На банкеце прысутнічаў віцэ-прэзыдэнт Злучаных Штатаў Амэрыкі Альбэрт Гор. Ад беларусаў Амэрыкі на банкеце прысутнічалі старшыня Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі Расьціслаў Завістовіч, рэдактар газэты «Беларус» Янка Запруднік і старшыня Кліўлендзкага адзелу БАЗА, старшыня культурна-асьветніцкага цэнтру «Полацак» Янка Ханенка.



На банкеце ў гонар прыезду Станіслава Шушкевіча
Зьлева направа: Геннадзь Бураўкін, Янка Запруднік, Юлія Бураўкіна, Янка Ханенка, Станіслаў Шушкевіч, Расьціслаў Завістовіч.

Вітаючы віцэ-прэзыднта Гора і дзякуючы яму за вельмі цёплы и прыязны прыём, зроблены Прэзыдэнтам Клінтанам і амэрыканскай грамадзкасьцю, Старшыня Вярхоўнага Савету падараваў Альбэрту Гору слуцкі пояс і, у знак удзячнасьці, апаясаў ім віцэ-прэзыдэнта праз плячо. Ведаючы, што віцэ-прэзыдэнт Гор цікавіцца экалягічнымі пытаньнямі, старшыня Беларускага парлямэнту афіцыйна запрасіў Гора наведаць Беларусь.

У сваім выступленьні віцэ-прэзыдэнт пахвальна выказаўся пра спадара Шушкевіча, як кіраўніка беларускае дзяржавы, за яго вядучую ролю ў тлумачэньні і правільным разуменьні міжнароднай палітыкі, за тое, што Беларусь, адмаўляючыся ад ядзернага ўзбраеньня, становіцца ня толькі бязьядзернаю, але й нэйтральнаю дзяржавай.

Банкет закончыўся каля 9-ай гадзіны вечара, а ў 9 гадзіне ганаровы эскорт і картэж бліскучых чорных лімузінаў пакінуў беларускае пасольства ў Вашынгтоне, каб завезьці беларускую дэлегацыю ў аэрапорт, адкуль Станіслаў Шушкевіч разам з дэлегацыяй паляцеў у Беларусь.



У часе банкету. Зьлева направа: перакладчык С. Шушкевіча, Н. Гілевіч, С. Шушкевіч вітае А.Гора перад банкетам, С. Мартынаў, А.Гор і перакладчык А. Гора Зарэчняк.

# Жыцьцё для Айчыны

## *Эмігранцкі лёс Ларысы Генюш*

Леў Мірачыцкі

Адразу пасьля вайны савецкія спецорганы рабілі нават спробы арыштаваць Ларысу Генюш і наладзіць над ёй судзілішча. Але з прычыны бурных пратэстаў чэскай грамадзкасьці, гэтага зрабіць не ўдавалася. Толькі ўсталяваньне ў Чэхаславакіі ў лютым 1948 г. таталітарнага рэжыму паспрыяла ажыцьцявіць арышт беларускай паэтэсы -эмігранткі й яе мужа. Так сталася, што Генюшы «былі першымі вязьнямі новай рэвалюцыі» ў Чэхаславаччыне.[1] «Па волі злога лёсу» яны былі разлучаны з дванаццацігадовым сынком Юрачкам, якім заапякаваўся польскі консул у Празе, і перададзеныя сталінскім службістам на расправу.

Той момант беларускай паэтэсе моцна запомніўся, калі яе па дарозе разам з аўстрыякамі пільна «сьцераглі касавокія канваіры» (выходзіць, славянам не давяралі), і ёй, няшчаснай, здалося, што «гэта часы і норавы Батыя».[2] Малюнак рэчаіснасьці быў невясёлы. «Сумна глядзелі на нас чэскія пагранічнікі, як быццам вязьлі нас на эшафот, а не на радзіму, і моўчкі праважалі за сваю граніцу». Пакуль што зьняволеных вязьлі ў Вену, на зборны пункт заплянаваных будучых катаржан,дзе стаялі савецкія акупацыйныя войскі.

Другім зборным пунктам быў горад Львоў. Тут, на працягу трох тыдняў прабываньня, рыхтаваўся «далёкі этап» — саліднае папаўненьне зьняволеных. Па дарозе былі Баранавічы,а затым прыбыцьцё ў Менск. Тут былі турэмныя камеры і допыты. Сьледчыя звычайна папракалі «ў незалежніцкіх тэндэнцыях» былую эмігрантку-дзеячку БНР. «Допыты-агітацыя працягваліся, погляды мае на палітычныя справы, дастаткова ўмацаваныя дэмакратыяй захаду, аналізам гітлераўскай дыктатуры й іншых крывава-таталітарных рэжымаў, былі дастаткова пэўнымі, мой сьледавацель ня мог даць са мною рады (маецца на ўвазе сьледчы Коган—Л.М.)

Зьняволеная нічога не скрывала і «не махлявала», згадзілася, што яе віна датычыць толькі «Камітэта Самапомачы» ў Празе, дзе яна была скарбнікам. Тут сьледчы Коган паказаў архіў камітэта, які яшчэ ў 1942 г. «загінуў» з кватэры Ермачэнкі, старшыні Беларускага Камітэта Самапомачы ў Празе. Выслухаўшы яе праўдзівыя паказаньні пра тэлеграму беларускіх эмігрантаў Гітлеру, ён нечакана паведаміў ёй, што «Ермачэнка за прозьвішча Генюш у той тэлеграме дастаў вялікія грошы!» Справа ў тым, што гэтую тэлеграму ніхто зь беларусаў не падпісваў, а на бланку пад тэкстам акуратна пад капірку былі выведзены прозьвішчы «подпісы ўсіх беларусаў, якія былі і не былі на тым сходзе!». Сьледчы сьмяяўся, а затым сказаў, што Ермачэнка з 1921 г. служыў у нямецкай разьведцы. Але ў Ларысы Генюш зьявілася «ўражаньне, што ён служыў ў савецкай».[3]

Прыйшла чарга зьявіцца да міністра ўнутраных справаў БССР Цанавы. У сваім кабінэце ён чакаў зьняволеную не адзін, за

*Заключэньне. Пачатак у №3(23)—5(25), 1993*

другім сталом сядзеў чэх, а навокал шмат было мужчын, вайскоўцаў-службістаў спецорганаў. Размова пачалася з пытаньня, на якой мове з арыштаванай размаўляць: «Ці па-расейску, ці выклікаць чэскага перакладчыка?» А яна адразу -ж і кажа :«Так, як вы зьяўляецеся міністрам беларускай дзяржавы, дык гаварыце па-беларуску». Такой рэакцыі ўсемагутны міністр не чакаў. Ён проста ашалеў ад злосьці: «Вы достаточно хорошо говорите по-русски!» Вайскоўцы адразу-ж павесялелі, яны ледзь не сьмяяліся з гэтай камічнай сцэны. А яна спакойна адкзала, «што расейскай моваю не валодаю дасканала». Гэта была праўда, бо Ларыса Геніюш ніколі рускай мовы не вывучала. Тут-жа прагучала строгае патрабаваньне да зьняволенай:

—Аддай архіў БНР!

—Няма ў мяне яго, і я ня ведаю, дзе ён!—адказала яна.

—Бить её, допрашивать день и ночь, — распарадзіўся міністр. А Ларыса Геніюш, будучы ценем чалавека, у каго толькі скура і косьці, выпраставалася, каб прыдаць сабе бадзёрасьці, дый кажа:

—Бяз волі божай волас мне з галавы не ўпадзе, і я не баюся вас!»

—Вы её испортили, она себя держит, как дама, —крычаў з каўказкім тэмпераментам высокадзяржаўны чыноўнік, абводзячы поглядам прысутных.

Зноў пачуўся вокрык:

—Кто Абрамчик?

—Мой друг.

—Кто Абрамчик, кто Абрамчик?

—Дэмакрат, — спакойна прагучаў адказ.

—А ты знаешь, что такое —демократия?

—Дзяржаўны лад, заснаваны на трох прынцыпах Вялікай французкай рэвалюцыі, — і назвала прынцыпы тыя па-французку, запытаўшыся: «Можа перакласьці?», іранічана.

—Нэ, нэ нужно!

Калі зьняволеную ахоўнікі вывелі з кабінэта міністра, на яе з усіх бакоў накінуліся сьледчыя, а Харашвін, якога назначылі начальнікам сьледчага аддзела, закрычаў:

—Біць цябе сам буду, сьцягну...

Пагрозы і зьнявагі давялося пачуць яшчэ неаднойчы.

Часамі на допыты зьняволенай паэтэсы прыходзілі вайскоўцы высокага рангу са спецорганаў. Ім было вядома, што яна «не любіла нацыскіх кіраўнікоў», а вось як адносіцца «да савецкіх?». Неяк пацікавіліся. Эмігрантка адказала:«Непрыемлемые». Тады зноў пыталіся: «Чаму»? Адказ: «Негуманныя!». Давялося пачуць контраргумент: «Як негуманныя, мы простыні ў цюрмах даем!». «Так, —сказала зьняволеная, адразу-ж дадаўшы: « і 10, і15, і 25 гадоў пакараньня сваёй моладзі, забіраеце ўсю магчымасьць людзкага жыцьця і шчасьця».

Больш пытаньняў вайскоўцы не задавалі. Яны проста выйшлі.

Сьледчы Коган паводзіў сябе спакойна і тактоўна, спачуваў, не крычаў, хваліў савецкую ўладу і даваў зразумець, што ва ўслаўленьні правадыра Сталіна і камунізму «гэта ня толькі ратунак, але і кар'ера, бо людзі ратаваліся гэтым». Ён таксама канстатаваў, што «ёсьць дастаткова матэрыялу, каб арыштаваную «асудзіць». Аднак яна не згадзілася. «Не магла.» Лічыла, што так можна «стаць супраць людзкасьці», адрачыся ад хрысьціянскай навукі дабра, справядлівасьці, «зьмяшацца з жудасным зьвяр'ём», «дзікім зьвяр'ём».

Другі сьледчы запытаўся:«Ві паэт? Ві вершаплёт?» Прысутныя пры гэтым мужчыны—вайскоўцы пацяшаліся, рагаталі, а затым пакінулі кабінэт. Ён-жа нечакана загле-

дзеўся і спакойна сказаў:

—Ну говорите, что вы хотите, я буду писать, расскажите о БНР.

Яна расказала пра тое, чым цікавіўся сьледчы. Ён усё запісваў.

Паступова аднавіўся «ранейшы дух адчайнай бадзёрасьці». Можа таму, што ў такой дзікай, нечалавечай сітуацыі трэба было «выжыць і захаваць чалавечы воблік».

Трэці сьледчы, у якога была арыштаваная, давялося прасядзець увесь дзень моўчкі.

У камэры страціла сілу духа й апусьцілася на калені ў малітве. Пасьля ўстала з каленяў, але ўстала ўжо «другім чалавекам, па-новаму нейкім сільным і зусім спакойным». Вышэй за ўсё для яе існавала толькі Айчына, дзеля якой трэба жыць.[4]

І вось настала 7 лютага 1949 г. Вярхоўны суд БССР. Ларыса Геніюш абвінавачвалася ў тым, што працавала ў Беларускім Камітэце Самапомачы ў Празе, муж—за тое, што ў часе вайны як урач быў у каманьдзіроўцы ў Слоніме. Апошняе слова далі сьпярша яму, але ў яго пацяклі сьлёзы , і ён амаль нічога ня мог сказаць. Апошняе слова Ларысы Геніюш было засяроджаным і сярдзітым. Яна адразу-ж заявіла, што—беларуска, але не зьяўляецца грамадзянкай СССР і таму не прызнае законаў савецкай дзяржавы, якая не лічыцца з правамі чалавека. Беларуская эмігрантка нічога не прасіла і ні ў чым не каялася, злосна абвінавацiла савецкую дыктатуру над людзьмі і народамі, зьдзек над інтэлігенцыяй, культурай, успомніла сьмерць бацькоў, якая на іх сумленьні. Асудзіла несправядлівасьць і бесчалавечнасьць таталітарнай сыстэмы.

Суд выйшаў на нараду. І адразу-ж вярнуўся, бо ўсё было вырашана загадзя: па 25 гадоў выпрабаваўчых працоўных лягероў кожнаму. Дарэчы такое рашэньне Судовая калегія Вярхоўнага суда БССР вынесла яшчэ завочна 29 студзеня 1944 г, верагодна па сьпіску з спасылкай на артыкулы 66 і 76 Крымінальнага кодэкса. Такі савецкі суд паказаўся Ларысе Геніюш «суцэльнай камедыяй».[5]

Адчуваньне ў асуджанай жанчыны-эмігранткі было прыгнечанае: не слухаліся ногі, але «злосьць і нянавісьць да садыстаў» вярнулі ёй сілы, каб выслухаць да канца. «Бедныя людзі, бясьсільныя стварэньні, — падумала яна, — убогая дзяржава мучаных і мучыцяляў, і другіх між імі няма.»

Старшыня суда ў сьлед асуджанаму чалавеку, імкнуўшыся заспакоіць і абнадзеіць: «Лариса, мы за воровские организации даем по 10 лет, мы вас пересудем. Мы не имели бы места для вас, если бы вы были с нами, но вы с этими бандитами.»[6]

Яна вярнулася ў камэру жанчын. Тут пра Ларысу Геніюш, якую прывезьлі пад канвоем з Чэхаславаччыны, жанчыну вельмі інтэлігентную і мужную, паэтэсу, маці малога сыночка, які застаўся дзесьці за граніцай, многія ўжо чулі і паставіліся да яе спачувальна і з сардэчнасьцю. Пасталіся яе пачаставаць сім-тым зь перадач, што знайшлося, імкнуліся разважыць вялікае гора. А калі ўдосталь нагаварыліся, яна спакойна заснула.

Пасьля дарога на этап .Сьпярша ў Брэст. У быдлячым закратаваным цягніку павезьлі яе на зборны пункт, у вязьніцу з чырвонай цэглы, якая ўмясьціла тысячы зьняволеных.

З арыштам і зьняволеньнем Ларысы Геніюш пачаўся другі пэрыяд яе замежнага прабываньня, толькі цяпер ужо прымусовай эміграцыі. У гісторыі разьвіцьця беларускай нацыі такія выпадкі мелі месца і былі зьвязаны з барацьбой патрыётаў краю за незалежнасьць ад чужацкага панаваньня. Тут можна згадаць Тадэвуша Касьцюшку ,Адама

Міцкевіча, Ігната Дамэйку і многіх іншых слынных землякоў. Асаблівасьць прымусовай эміграцыі Ларысы Геніюш была ў тым, што праходзіла яна пад канвоем, што было характэрным для таталітарнай сыстэмы партыйна-дзяржаўнага кіраваньня. Адной зь першых ахвяр той прымусовай эміграцыі пад канвоем стаўся вядомы пісьменьнік-драматург і тэатральны дзеяч Франьцішак Аляхновіч, які трапіў на Салаўкі ўжо ў сярэдзіне 20-х гадоў.

Час прымусовай эміграцыі Ларысы Геніюш пад канвоем ахоўнікаў савецкай таталітарнай сыстэмы прыпаў на пасьляваенныя гады, заключны этап сталінскага праўленьня. І тым ня менш па сваёй жорсткасьці гэты перыяд не ўступаў першапачатковаму, калі йшло поўным ходам зьнішчэньне іншадумцаў адносна «сацыялістычнага рэалізму» і так званых нацыяналістаў».

Зь Беларусі ахоўнікі закінулі Ларысу Геніюш на далёкую, халодную поўнач Сібіры, край аленяў і мерзлаты Комі АССР, дзе прасьціраюцца бяскрайнія «дзікія, чужыя прасторы» тундры. Сутрэча з такой рэчаіснасьцю не была для яе прыветнай:

*Востры боль пранізаў навакольле,*
*Горай зьвера тупы чалавек.*

Мужалася паэтэса, каб «мець непахісную волю, магутнейшую волю за зьдзек» [7]

Каб разагнаць нявольніцкі сум, яна спрабуе перанесьціся думкамі праз далячынь на родную зямельку, пабыць там, дзе «ходзіць мой Сын...»

Трэба было ўсьведамляць, што тут, на дзікай поўначы Сібіры, яна не адна. Разам зь ёю тут адбываюць дзесяці і двадцаці-гадовае пакараньне многія зямлячкі з розных куткоў Беларусі, дзяўчаты зь Літвы, Украіны, Эстоніі, Малдавіі. Тут былі немкі і полькі. І ўсе яны шчыра прывязаліся да яе, моцна шануюць як таленавітую паэтэсу і шляхотную маці. А дзяўчаты з Галіччыны зьвяртаюцца да яе няйначай як «пані Ларыско!», ветліва, ласкава. І яна ўсіх іх шкадуе, імкнецца дапамагчы парадай, добрым словам спачуваньня, падтрымаць маральна, падрыхтаваць да суровых выпрабаваньняў:

*Сягоньня прыдзецца спаткацца з пургой,*
*За вокнамі сьцюжа. Ну што-ж , мы гатовы*
*Ля вахты чакае ўжо нас канвой,*
*Такі быццам тундра, дзікі і суровы.*[8]

Зь сяброўкамі разважае яна аб «шчасьці далёкім» і пакінутых нівах» і чалавечых пачуцьцях, і запэўнівае:

*Я з вамі ў няволі, я з вамі ўсьцяж*
*У сьмелых сваіх летуценьнях,*
*Я з вамі ў кожнай гадзіне жыцьця,*
*У кожнай мінуце цярпенья,*
*Пяцёрачным строем я з вамі іду,*
*Хоць штык нада мною ўзьняты,*
*Я шлю вам прылівы хвалюючых дум,*
*Апершысь аб чоран лапаты,*
*Я з вамі ў шахтах пры працы цяжкой,*
*Калі чало потам абліта.*
*Тужу і сумую збалелай душой,*
*Калі хоць адзін з вас нясыты,*
*Я з вамі ў надзеі, раз' іскраны час,*
*Усёй сілай маёй адзноты,*
*Нічога, браты, што дарога да вас*
*Калючым заплецена дротам!*[9]

У сваіх вершах на беларускай і рускай мовах яна заўжды імкнулася выказаць сваю салідарнасьць да ўсіх зьняволеных, хлопцаў і дзяўчат. «Муж зусім адзін на Варкуце недзе, як я ўжо...даведалася, і я... Толькі я не адна, са мною заўсёды людзі, асабліва ўкраінцы, якіх так нязьмерна цаню, і добры Бог са мною.»[10] А яшчэ не магла забыцца, як «падышла да мяне вельмі прыгожая расейская дзяўчына Аня Бандарэнка», якой нават на катарзе камусьці хацелася падабацца, «хоць сасонкам, хоць людзям, які я глядзяць на яе. Аднойчы прыйшла

да мяне моўчкі, доўга стаяла, а пасьля папыталася ціхенька, ці я выслухаю яе, ці памагу, ці змагу палюбіць яе, нягледзячы на тое, што яна расейка?» Ларысу Геніюш гэта зьдзівіла і ёй стала сьмешна: «Аня, мілая, харошае дзяўчо, ці-ж ёсьць, ці-ж можа быць тут розьніца між вамі ўсімі, такімі беднымі, такімі дарагімі. Ты як дзіця мне, кажу, і будзеш заўсёды кусочкам сэрца майго». Я заплакала».[11]

Ёй былі дарагія і зьняволеныя «літоўскія студэнтачкі,» якія лічылі яе сваёй, а «полька Марыя, маладзенькая, высокая, сьветлая: «Пані Ларыса, ці праўда, што такія як я недзе цяпер... перад вобразам Божым у касьцёле, яны пэўна, як анёлы, і мне так хочацца быць зь імі, ня буду пэўна ўжо, вырасту вельмі.» А зьняволеныя хлопцы-беларусы пазнавалі яе здалёк, і слалі запіскі, зьвяртаючыся ласкава: «Мама, мы шчасьлівыя, што мы маем сям'ю нам, лягчэй. Вось другія крадуць, нізка падаюць маральна, учора адзін напаў на канвоя ў строі, яго падстрэлілі, гэта ён здурэў з гора, з адзіноты, а мы трымаемся, маці». Запіска была напісана лацінкай, відавочна, ад юнакоў з былой Заходняй Беларусі, «такая цёплая, добрая, я схавала яе».[12] Кожны хлопец-беларус лічыў сваім абавязкам паведаміць слыннай пясьнярцы на выгнаньні, што яна дарагая ім, што ён помніць пра яе. Такіх запісак перадавалі пры першай мажлівасьці многія і многія землякі, якія апынуліся на далёкай сібірскай Поўначы.

Знаёмства з творчай спадчынай Ларысы Геніюш, якая ўжо ўбачыла сьвет і дайшла да шматлікіх прыхільнікаў яе таленту, дазваляе меркаваць,як аб даволі значнай. Многія зь іх ужо выказалі сваю думку. «Апошнім часам, асабліва ў сувязі з публікацыяй у «Маладосці» (1990), успамінаў споведзі паэтэсы, —пісала Люба Тарасюк, літаратурны крытык і педагог,—яе трагічная і велічная постаць засланіла сабой многае, што раней здавалася вялікім, застаючыся дробязным па сутнасьці. Асоба Геніюш паўстала ў нашай гісторыі і літаратуры ў сваёй сьвятасьці і духоўнай цэльнасьці, і адбылося гэта неяк нечакана, хоць яе ведалі даўно і многія»[13].А вось як усьведамляе сваю зямлячку з Горадзеншчыны паэтэса Данута Бічэль-Загнетава: «Сейбітка глыбокіх думак, ткальля наватарскіх метафар і перыфраз на аснове народных традыцыяў, умее дакапацца і да грунтоўных плыняў гісторыі, умее высока ўзьляцець на крыльлі песьні, несучы насустрач усім праявам жыцьця нерастрачанае пачуцьцё любові да роднай зямлі «ў задуманых зьлёгку дзявочых вачах». [14]

Ва ўяленьні пісьменьніка Вячаслава Адамчыка Ларыса Геніюш паўстае: «І мудрая, і па-жаночы велічная, і шляхетная..., гордая постаць на пастаменьце слынных людзей нашай Бацькаўшчыны»[15].

Пісьменьніца Валянціна Коўтун таксама блізка ведала Ларысу Геніюш, перапісвалася зь ёю, даражыла яе прыязнасьцю. Яна — «дачка народа», «з рабра наднёманскіх рабін», якая мела багаты паэтычны талент « і талент гаспадыні», прыветнай і шчодрай [16].

Прыемна парадавала вестка з Англіі, дзе стараньнямі Беларускай бібліятэкі імя Францішка Скарыны і прафэсара Лонданскага ўнівэрсытэта А.Макміліна выйшаў у сьвет зборнічак вершаў Ларысы Геніюш «Вершы», які ўключае творы з рукапіснай спадчыны 1945-1947 гг. «асобную непаўторную старонку быцьця паэтэсы на эміграцыі ў Празе», «вяршыню трагізму які яна перажыла напярэдані новых выпрабаваньняў «на чужым беразе». [17]

Эміgranцкі лёс Ларысы Геніюш быў

нялёгкім, а на другім этапе—вельмі драматычным. Знаходжаньне ў Празе, дзе ўсьвядоміла гісторыю братняга чэскага народу, яго працяглай і няспыннай барацьбы за незалежнасьць пранікласея глыбокімі пачуцьцямі салідарнасьці да ўсіх свабодалюбівых народаў і сама цьвёрда стала на шлях нацыянальнага Адраджэньня. Пакуты, якія зьведала пры таталітарнай сыстэме кіраваньня (1948-1956), не скарыўшыся і ня страціўшы свайго нацыянальнага вобліку і высокай чалавечнасьці, прыдалі ёй шырокую вядомасьць на Бацькаўшчыне і на эміграцы, у многіх славянскіх краінах. «Яна—Геній Духу», справядліва скажа вядомы бібліёграф і публіцыст Валеры Герасімаў.»[17]

Мужнасьць і ахвярнасьць паэтэсы, высакароднай жанчыны—маці ў служэньні сваёй Айчыне сёньня шырока захапляе нацыянальна свядомую беларускую моладзь, якая бачыць у гэтым для сябе прыклад, годны перайманьня. Мабыць, невыпадкова студэнты Беларускага ўнівэрсытэту ў Менску, калі там у 60-я гады праходзілі камсамольскія сходы-судзілішчы над беларускасьцю, гуртам адпраўляліся ў Зэльву, дзе тады жыла вялікая пясьнярка, за маральнай падтрымкай і за бласлаўленьнем ў сьвятым змаганьні за родную мову і культуру.

Вядома, што таталітарная сыстэма рабіла ўсё, каб пазбавіць Ларысу Геніюш чэхаславацкага падданства дзеля ўчыненьня над ёю ідэялагічнай і фізычнай кары. У знак пратэсту, нават пасьля сібірскай катаргі, зьведаўшы зьдзекі мясцовых савецкіх і партыйных органаў, яна не прыняла савецкага грамадзянства.Так і засталася падданай БНР.

Сьветлая і велічная постаць Ларысы Геніюш чакае свайго ўвасабленьня ў сцэнічным і выяўленчым мастацтве, каб яе жыцьцё й яе эмігранцкі лёс, поўны драматызму і трагізму, сталі больш вядомым сынам і дочкам Беларусі, усім беларусам, дзе-б яны ні жылі. Нам трэба памятаць, што Ларыса Геніюш верыла, што «праўда усё-ж жыве, і пераможа, бо «Мы—народ»!

Бібліяграфія


[1] Маладосць, 1990, №3, с. 116-118.
[2] Маладосць, 1990, №3, с..119-123.
[3] Маладосць, 1990, №3, с. 124-130.
[4] Маладосць, 1990, №3, с. 134-138.
[5] Ростані волі, Мн., 1990, с. 34, Маладосць, 1990, №3, с. 142
[6] Маладосць, 1990, №4, с. 156-137.
[7] Літаратура і Мастацтва, 1987, 25 сьнежаня.
[8] Літаратура і Мастацтва, 1987, 25 сьнежаня.
[9] Літаратура і Мастацтва, 1987, 25 сьнежаня.
[10] Маладосць, 1990, №6, с. 134
[11] Маладосць, 1990, №6, с. 134
[12] Маладосць, 1990, №6, с. 135
[13] Літаратура і Мастацтва, 1991, 26 красавіка.
[14] Геніюш Ларыса. На чабары настоена. Мн., 1982, с.6.
[15] Літаратура і Мастацтва, 1991, 25 сьнежня.
[16] Беларусь, 1991, №3, с.11-12
[17] Літаратура і мастацтва, 1991, 19 красавіка




# З архіваў эмігарцыі

## Сустрэча з Канстантынам Езавітавым

Уладзімер Брылеўскі

Спадзяюся, што можа хто-небудзь з латыскіх белаусаў, хто працаваў у беларускім школьніцтве ў Латвіі ці быў так ці йнакш зьвязаны зь ім, напіша калі-небудзь шырэй і дакладней пра гэта. Я хачу падзяліцца з чытачамі часопіса «Полацак» кароткімі ўспамінамі пра адзін незабыўны дзень у маім жыцьці.

Гэта было ўлетку 1944 г. ў Рызе. Канстантын Езавітаў, стары беларускі дзеяч, адзін зь піянэраў беларускага нацыянальнага руху і галоўны арганізатар беларускага школьніцтва ў беларускай Дзьвіншчыне пад Латвіяй запрасіў беларускага публіцыста Ўладзімера Глыбіннага, ведамага таленавітавага беларускага паэту Алеся Салаўя і мяне з жонкай на ўрачыстасьць заканчэньня настаўніцкіх курсаў для павышэньня кваліфікацыі й настаўніцкую канфэрэнцыю. Урачыстасьці адбываліся ў будынку мясцовай беларускай пачатковай школы, дзе праходзілі і згаданыя курсы ды настаўніцкая канфэрэнцыя.

Тут неабходна прыгадаць дырэктара гэтай школы і выкладчыка на курсах сп. Сіцько, які, будучы вельмі рэлігійным чала-



Рыга, 14 травеня 1944 г. Езавітаў (сядзіць шосты зьлева) разам з курсантамі па дарозе у парк
Фота з архіву сп-ва Брылеўскіх



Уладзімер Брылеўскі (справа) з настаўніцамі, 14 травеня, Рыга, 1944 г.
Фота з архіву сп-ва Брылеўскіх

векам, ня змог прапусьціць нядзельнай службы ў царкве і на ўрачыстасьці ня прысутнічаў.

Урачыстасьць адчыніў кароткім, але зьмястоўным словам кіраўнік курсаў і канфэрэнцыі Канстантын Езавітаў, які прадставіў нас прысутным настаўнікам. Усе настаўнікі й настаўніцы былі маладыя векам людзі. Відаць было, што яны любяць сваю працу й ставяцца да яе паважна. Бачучы іхны энтузіязм, рабілася радасна й бадзёра на душы. На просьбу Канстантына Езавітава да настаўнікаў прамовіў Уладзімер Глыбінны, а пасьля яго Алесь Салавей прадэклямаваў колькі сваіх вершаў. Па тварах і прамяністых позірках настаўнікаў мы бачылі, што ўсе чутае моцна закранула іхныя сэрцы. Яны перажывалі вялікую духовую радасьць. На заканчэньне ўрачыстасьці прамовіў ізноў Канстантын Езавітаў і запрасіў усіх прысутных на супольны сьціплы абед у бліжэйшы рэстаран.

Падачс абеду—хоць і бяз «чарак і скварак» (ваенны час, было толькі безалькагольнае піва-эрзац) панавала прыемная, шчырая сяброўская атмасфэра. Было вельмі



У парку. К.Езавітаў у цэнтры. Другі справа Ул.Глыбінны
Рыга, 1944 г. Фота з архіву сп-ва Брылеўскіх

цікава і прыемна пагутарыць із суродзічамі, якіх аддзялялі ад нас на працягу звыш 20-ёх гадоў польска-латыская й савецка-латыская дзяржаўныя межы.

Пасьля абеду, на прапанову Канстантына Езавітава, усе прысутныя выйшлі ў суседні з рэстаранам парк прайсьціся. На дварэ быў цудоўны цёплы, але негарачы сонечны дзень. Ішлі мы ўсе аднэй групай па асфальтаванай дарозе цудоўным вялкім лясным паркам, які раськінуўся на паўночна-ўсходняй акраіне прыгажуні Рыгі. Сямтам пры дарозе стаялі прыгожыя мадэрныя вілі заможных латышоў, бальшыня якіх у гэным часе ў іх ня жыла, бо падчас масавай дэпартацыі латышоў, лятувісаў і эстонцаў у чэрвені 1941 году была вывезеная бальшавікамі ў Сібір.

Канстантын Езавітаў, які жыў у памешканьні аднэй з гэных віляў, сказаў нам, што бачыў, як вывозілі собсьніка суседняй вілі з усёй сям'ёй. Выйшаўшы пад канвоем энкавэдыстых, латыш перад тым, як сесьці ў грузавік, зьняў капялюш і нізка пакланіўся свайму дому, а затым пацалаваў родную зямлю.

Крыху пазьней, незадоўга перад сваім выездам у Нямеччыну, Канстантын Езавітаў паказваў мне сваю багатую бібліятэку, у якой было шмат рэдкіх старадрукаў. Кнігі стаялі ў вялікім пакоі на паліцах ад падлогі аж да столі. Выяждажючы з Рыгі, Канстантын Езавітаў здолеў даволі шмат зь іх забраць з сабой.

У Нямеччыне, калі ён быў цяжка хворы (я чуў, што ён быў ранены падчас бамбардаваньня), кнігамі заапякаваўся адзін зь беларускіх дзеячоў Аляксей Сянькевіч, які і прывёз іх з сабой у ЗША. Нажаль, бясцэнныя кнігі Канстантына Езавітава і па сёньняшні дзень захаваныя ад беларускага грамадзтва і не выкарыстоўваюцца.



У парку. Езавітаў у цэнтры. Л. Брылеўская стаіць трэцяя справа.
Рыга, 1944 г. Фота з архіву сп-ва Брылеўскіх

 **ПАМЯЦЬ ЗЯМЛІ** 

# Скарбы Менскіх каталіцкіх касьцёлаў

Антон Шукелойц

Першай каталіцкай сьвятыняй, якая была аддадзена для карыстаньня вернікаў, быў кафедральны сабор Дзевы Марыі на пляцы Волі. Касьцёл захаваўся вельмі добра, бо да вайны тут разьмяшчаўся гараж. У канцы чэрвеня, здаецца, у другую нядзелю пасьля прыходу немцаў у Менск, машыны былі вывезены з касьцёлу, і нямецкія капэляны адправілі першую службу. Мажліва з тэатру, вернікі забралі прыгожы занавес-палатно зь беларускім чорна-рудым арнамэнтам, які павесілі ў цэнтральным месцы сабору, там дзе раней быў алтар. На гэтым палатне яны зьмясьцілі Расьпяцьце, прыгожую скульптуру з дрэва. Крыж Расьпяцьця быў памерам у чалавечы рост. Гэтая драўляная скульптура была выканана ў стылі барока. Першым беларускім ксяндзом у саборы Дзевы Марыі быў кс.Рыбалтоўскі. На жаль, ён прабыў тут нядоўга, праз нейкі час вярнуўся ў Валожынскі раён, дзе аднойчы быў забіты з-за вугла. (Хадзілі чуткі, што гэта была «справа» польскіх бандаў). Акрамя кс. Рыбалтоўскага ў Менск прыехалі зь Вільні беларускія ксяндзы: кс. Глякоўскі і кс.Малец. Яны выдалі малітоўнікі ў беларускай мове. У канцы 1941 году зь Нямеччыны прыехаў кс.Гадлеўскі, які напачатку займаўся школьніцтвам на пасадзе генеральнага інспэктара.

Пры касьцёле Дзевы Марыі былі заўсёды нямецкія капэляны, мабілізаваныя з манастыроў. У Менску меліся сьвятары з розных вайсковых адзінак: нямецкіх, мадзярскіх, летувіскіх. Былі гішпанцы з Блакітнай дывізіі, многа славакаў. Так як славацкая мова вельмі падобная на нашую, то славацкія сьвятары карысталіся найбольшай папулярнасьцю ў народзе.

Набажэнствы ў касьцёлах адбываліся ў лацінскай мове, а дадатковыя службы і малітвы — у беларускай. Мастак Віер перадаў з музэю ў сабор Дзевы Марыі труну з мошчамі сьв. Феліцыяна. Я, у сваю чаргу, перадаў з гістарычнага музэю мошчы сьв. Паўла. Гэты сьвяты быў вельмі паважаны ў родзе Радзівілаў, якія вазілі яго ўсюды з сабой у переравазным алтары. Я знайшоў гэты алтар у дрывотніку, што зьмяшчаўся каля Юбілейнага Дому, калі разьбіраў старыя рэчы, і перадаў кс.Гадлеўскаму, які ў гэты час вёў службы ў касьцёле. Касьцёл Дзевы Марыі выглядаў даволі сьціпла. Таму ў 1942 годзе яго пачаў аднаўляць мастак Пётр Сергіевіч. Здаецца, ён пасьпеў зрабіць росьпіс адной капліцы.

Другі касьцёл, які пачаў дзейнічаць у час вайны, быў Чырвоны касьцёл, вядомы як касьцёл сьв.Сымона і сьв.Алены. Гэты храм пабудаваў на свае сродкі памешчык Вайніловіч, які, як сьведчаць нядаўна знойдзеныя дакумэнты, лічыў беларускую мову сваёй першай мовай. У Чырвоным касьцёле да другой сусьветнай вайны знаходзіўся тэатр юнага гледача, і таму будынак добра захаваўся. У гістарычным музэі я знайшоў у падстрэшшы два арыгінальныя абразы з Чырвонага касьцёла. Адзін абраз — у поўны чалавечы рост крыж — намаляваны на цёмным фоне. Другі абраз — выканая ў мадэрнай тэхніцы Божая Маці на фоне краявіду Менску з Чырвоным касьцёлам унізе. Перад

Працяг. Пачатак у № 5(25).

Божай Маці кленчылі дзеці: дзяўчынка і хлопчык. Гэты абраз выкарыстоўваўся ў музэі для антырэлігійнай прапаганды. Маўляў, вось памешчыкі намалявалі сваіх дзяцей і зрабілі іх сьвятымі, а вы, бедныя людзі, маліцеся на іх. Нягледзячы на ўсе гэта, людзі прыходзілі ў музэй і маліліся. Бачучы, што абраз ніяк не дапамагае ў антырэлігійнай прапагандзе, а хутчэй наадварот, яго закінулі ў падстрэшшы, а на месцы яго зьмясьцілі копію, намаляваную ў стылі прымітывізму. Гэтыя два арыгінальныя абразы я і перадаў кс. Глякоўскаму. Той, праўда, крыху спалохаўся, калі даведаўся, што іх выкарыстоўвалі ў антырэлігійных мэтах. Таму ён павесіў іх не ў галоўным алтары, а збоку як гістарычна-культурныя помнікі. А замест абраза Божай Маці мастак Пётр Сергіевіч намаляваў новую прыгожую ікону. Што сталася з гэтымі арыгінальнымі абразамі, а таксама, дзе захоўваецца ікона Сергіевіча, і мусяць даведацца беларускія дасьледчыкі.

Так як Чырвоны касьцёл меў вежу, якая канчалася нібы хаткай, а немцы баяліся,каб яна не была выкарыстана для шпіёнскіх мэтаў, то польскія ксяндзы не дапускаліся ў Чырвоны касьцёл. Наогул, у Менску немцы польскім ксяндзам не давалі ходу, бо ведалі, што разам з ксяндзом абавязкава прыездзе арганіст, затым памочнікі, а пасьля прыслуга, і паступова назьбіраецца цэлая група, якая, як лічылі немцы, зможа арганізавацца ў падпольную арганізацыю, якіх было тады нямала.

Перад калядамі 1941 г. у выніку правакацыі кс. Глякоўскі і кс.Малец былі высланы ў канцэнтрацыйныя лягеры, дзе яны і загінулі. Набажэнствы ў Чырвоным касьцёле мусіў праводзіць кс. Гадлеўскі і капэлян летувіскіх вайсковых адзінак кс. Ігнатовіч. Ксёндз Гадлеўскі праслужыў да калядаў 1942 г., калі быў арыштаваны і расстраляны ў Менскім СД.

Памятаю, як у Калядную ноч 1941 году ў касьцеле Дзевы Марыі сабралося многа народу. Надыходзіў час службы, а кс. Глякоўскага ўсё не было. Перад самай службай немцы прывялі афіцэра ў ранзе палкоўніка. Ён прыйшоў у касьцёл, скінуў плашч і сказаў: «Калі-б захацелі мяне арыштаваць, то гэта мусіў-бы зрабіць афіцер, прынамсі у *такой-жа раньзе, як і я.» Ягоныя словы* супакоілі людзей і прынесьлі нейкую ўпэўненасьць. У Чырвоным касьцёле ў тыя Каляды службу вёў капэлян летувіскага палку, летувіс Зянон Ігнатовіч, прафэсар адной з духоўных сэмінарыяў Летувы, які прыхільна ставіўся да беларусаў.

Пры каталіцкіх касьцёлах нямалую ролю адыгрываў францішканскі манах, якога прывёз кс.Глякоўскі. Здаецца, імя ягонае было Станіслаў Васюкевіч. Цэлую катэхізацыю ён вёў у беларускай мове. Ігнатовіч службу праводзіў на лаціне, а Евангельле чытаў па-беларуску.

Трэці касьцёл, які быў адчынены ў час вайны, знаходзіўся на Кальварыйскіх могілках. Ён добра захаваўся. У алтары вісеў абраз мастака Яна Дамэля. (Між іншым, мастак Дамэль пахаваны пад касьцёлам) Абраз быў намаляваны на вядомы сюжэт «Малітва Хрыста перад чашай.» Гэты абраз быў з XIX ст. Палякі ў канцы 80-х гадоў забралі абраз, а на ягоным месцы павесілі вялікі, чырвонага колеру шчыт, з намаляваным на ім крыжом і надпісам «Крулюй нам Хрыстэ». Таксама ў касьцёле разьвешаны надпісы на польскай мове, чаго ніколі не было раней.

Касьцёл сьв. Роха на Залатой Горцы не адпраўляў набажэнстваў у час нямецкай акупацыі. Я добра памятаю, як ён гарэў на пачатку вайны, бо я праходзіў каля яго,

вяртаючыся з турмы. Я думаў, што касьцёл поўнасьцю згарэў, але памыляўся. Аднойчы, у канцы кастрычніка-лістапада 1941 году, вяртаўся да хаты з журналістам Алесем Матусевічам. Ён прапанаваў мне зайсьці і паглядзець, што сталася з касьцёлам, бо там адзін час захоўваліся архівы... Мы падыйшлі да касьцёлу. Ён, абгарэлы, стаяў, але ня рушыўся. Мы зайшлі ў сярэдзіну. Нічога з дакумэнтаў мы там не знайшлі. Толькі два трупы ляжалі ў будынку.

Прайшла зіма, і касьцёл, нягледзячы на вялікія пашкоджаньні, не развaліўся. Каталікі зьвярнуліся да старшыні гораду прафэсара Іваноўскага, і той дапамог ім з матэрыяламі ў правядзеньні кансэрватыўных работ. Людзі забілі вокны, адбудавалі страху, і ў такім выглядзе касьцёл і прастаяў усю вайну. Зь ягоных аздобаў я памятаю барэльеф Божай Маці, які зьмяшчаўся пры галоўным уваходзе ў касьцёл.

Пасьля прыходу савецкай арміі ў Менск каталіцкія сьвятыні ў горадзе былі зачыненыя. Што сталася зь іхнімі рэліквіямі і шматлікімі каштоўнымі абразамі,—аб гэтым, мне здаецца, мусяць паклапаціцца адпаведныя ўрадавыя ворганы і беларускія дасьледчыкі: гісторыкі, мастацтвазнаўцы.



Троіцкі залатагорскі касьцёл сьвятога Роха. Фота 1901 г.




У апошнія гады мяне ўсё часьцей і часьцей цягне пераглядаць хатні архіў з тымі фотаздымкамі, дзе я студэнт Віцебскага мастацкага тэхнікума, стаю разам з маімі аднакласьнікамі. Вось мы згрупаваліся каля нашых настаўнікаў, вось працуем з мальбертамі або пазіруем, ціснемся адзін да аднаго, каб трапіць у аб'ектыў фотаапарата, які трымае наш студэнт

Здымкі рабіліся ня ў першы год нашага навучаньня, не ў 1929 г., калі яшчэ трымаўся НЭП, а годам пазьней, калі ад НЭПа засталіся толькі добрыя ўспаміны ды надзеі, што можа толькі часова прыпынілася новая эканамічная палітыка, можа вернецца былы дабрабыт. Мары засталіся марамі, а жыцьцё пагоршылася, калі пайшла калетывізацыя. Сялянаў сілком заганялі ў калгасы, а найбольш працавітых аб'яўлялі кулакамі-міраедамі ды высылалі іх разам зь сем'ямі ў Сібір. Адразу зьнянацку ў сьпісках ворагаў народу апынулася многа людзей, якія гандлявалі або добра працавалі на зямлі. Усе яны зрабіліся клясавымі ворагамі разам з падкулачнікамі, да якіх няма літасьці.

Нягледзячы на гэтую атмасфэру,якая панавала паўсюль, нам, студэнтам,трэба было набірацца ведаў, вывучаць эстэтыку, назіраць хараство, якое існуе недзе там, дзе нас няма. І ў той-жа час стаяць ў чаразе ў сталоўцы, каб паесьці па талонах нейкай пахлёбкі.

Казалі, што гэта было «головокружение от успехов», занадта хутка насунулі хамут на шыю народу і пачалі паганяць пугою, што звалася сацыялістычным спаборніцтвам.

Аднак вернемся ў 1929 г., калі я добра здаў экзамены і мяне залічылі на І курс. Я паехаў у Менск па радаваць маці ды захапіць неабходныя для студэнцкага жыцьця рэчы.

Радавацца, праўда, прыйшлося нядоўга. Калі я правучыўся тыдні два, мяне загадам дырэктара мастацкага тэатральнага тэхнікума звальняюць з прычыны, што я сын былога служачага царскага рэжыму. Дырэктарам тэхнікума быў у той час Віталій Фрыдрыхавіч Вольскі-Зэйдэль, з паходжаньня, здаецца, немец, хацяя, калі пачалася вайна, ён «стаў» яўрэем. Можаце сабе ўявіць, наколькі я быў зьбянтэжаным. Сам я сябе адчуваў рабочым,бо скончыў прафэсыйна-тэхнічную школу ў малярна-жывапісным цэху з найвышэйшым разрадам (у той час лічыўся сёмы). Альфрыйныя работы — росьпісы столяў, бардзюраў, размалёўка панэляў пад дуб, пад арэх — і іншыя працы мог рабіць як сапраўдны майстар.

...На заняткі я ўжо не хаджу, мой тапчан-ляжак заняў сялянскі хлопец, адным словам, я нікому не патрэбен і мушу шукаць выйсьця сам. Я напісаў ліст маці, і стаў хадзіць на замалёўкі старога Віцебска,

Працяг. Пачатак №5—№9(19), №5(25).

Блага, у горадзе маецца шмат прыгожых куточкаў ды цікавых кожнаму мастаку мясьцінаў, а таксама Дзьвіна,у якую ўпадае рака Віцьба. За два тыдні накапілася даволі ладная колькасьць накідаў, і вось з гэтым багажом я еду ў Менск, падаю заяву ў Наркампрас. На маё шчасьце, мяне прыняў Язэп Дыла, які перагледзеў малюнкі і зазначыў: «Здольны хлопец, чаму звольнілі — не разумею». На маёй заяве рэзалюцыя была лаканічнай «Дазволіць працягнуць заняткі студэнту Ціхановічу Яўгену». І мне дазволілі. (У той час узьнікла адзінаначальле. І вышэйшы начальнік мог адмяніць загад падначальнага (у дадзеным выпадку дырэктара тэхнікума Вольскага Зэйдэля, зь якім мне прыйдзецца яшчэ сустракацца ў трагічным лёсе Ўладзіслава Галубка).

У 1930 г. я ўжо на другім курсе. Свае заняткі пачынаю з таго, што мяне, як і ўсіх студэнтаў тэхнікума, адвозяць на цягніку ў Лёзьненскі раён, дзе мы патрэбны як рабочыя саўгаса ўбіраць лён і рабіць іншую працу ў гаспадарцы.

Чаму так здарылася, нецяжка здагадацца, бо тыя падзеі адбываліся ў час самага моцнага ўздыму калектывізацыі, як звалася тады новае прыгонае права. Мужыкі з вёсак разьбегліся, хто куды, каб толькі не ісьці на абагульненье сваёй скаціны з тымі, хто не ня меў. Яны пакідалі свае хаты і падаваліся на Ўкраіну, у шахты, на ўборку ільну ды іншыя працы, дзе не хапала людзей. Аднак будучыя мастакі ўсё маглі рабіць, бо самі былі сяляне. Нашыя настаўнікі, такія, як Керзін, скульптар, які скончыў Імпэратарскую Акадэмію мастацтваў у Пецярбурзе, Хрусталёў, былы рабочы Пуцілаўскага завода, ды іншыя настаўнікі былі гарадзкія людзі, але рабілі ўсё, што патрабавалася, разам з намі.

Трэба сказаць, што да тэхнікума ў Віцебску да 1923 г. існаваў эксперыментальна-мастацкі інстытут, навучальная ўстанова, з высока кваліфікаванымі педагогамі. Працавалі ў ім Дабужынскі, Фальк, Пэн, Юдовін і інш. Пасьля пераўтварэньня інстытута ў сярэднюю навучальную ўстанову — у мастацкі тэхнікум, выкладчыкамі былі мастакі: В.Волкаў, М.Керзін, Міхалап, М.Лебедзева, Ф.Фогт, Я.Мінін, М.Эндэ, Шульц, Хрусталёў, браты Хрыстофор і Пётр Даркевічы. У гады сталінскага тэрору загінулі браты Даркевічы, як дзеці багатага млынара. Я.Муніна расстралялі як былога царскага афіцэра. Уся гэтая агульная для беларускай інтэлігенцыі трагедыя адбывалася ў 30-я гады, калі Сталінскі «хапун» дасягнуў вышэйшага развою. Палітызацыя з аднаго боку, падазронасьць і прага выкрываць ворагаў паў-



Віцебскі мастацкі тэхнікум

сюды, з другога, ахапіла і навучальныя ўстановы—галоўным чынам студэнцтва, дзе камсамольская ячэйка й яе сакратар кіравалі ўсімі справамі, асабліва ў ідэялагічным «выхаваньні». Дырэктар быў хутчэй усяго загадчыкам гаспадаркі, меў пры сабе загадчыка навучальнай часткі. Камсамольцамі лічыліся ўсе студэнты ,бо трэба было ў інтэрнаце абавязкова ўваходзіць у камуны па інтэрнацкіх пакоях, дзяўчаты і хлопцы асобна. Гэтыя камуны праіснавалі нядоўга, бо ніхто не хацеў сваю пасылку харчоў з дому дзяліць між членамі камуны, якія такіх пасылак не атрымлівалі. У дзяўчат былі свае праблемы. Тая, якая мела дастаткова вопраткі, павінна была даць той сяброўцы па камуне, якая ня мела яе зусім або ў абмежаванай колькасьці. Памяшканьне інтэрната абагравалася вельмі кепска — у рукамыйніку за ноч замярзала вада. Драўляныя тапчаны былі з клапамі, ніякіх пасьцельных прыналежнасьцей інтэрнат ня меў, абыходзіліся сваімі. Санітарнае становішча інтэрната настолькі было дрэннае, што пісаць аб гэтым сёньня сорамна. (Чаго былі вартыя толькі так званыя туалеты ў канцы двара без дзьвярэй).

Як і ўсе, студэнты харчаваліся па талонах. Карткавая сыстэма была ўведзена паўсюдна, але акрамя хлеба ў абмежаванай колькасьці ды цукерак-падушачак, якія цяжка было адвесіць, бо яны склейваліся, нічога ў крамах (цэрабкапах—цэнтральных рабочых кааператывах) не было. Рынкі-ж паўсюль забараняліся, ды і не было чым гандляваць. Студэнты куплялі талоны, па якіх можна было сьнедаць, абедаць і вячэраць. Але вось усяго гэтага не хапала. Чарга за ўсім усюды вялікая. Нашы студэнты, асабліва графічнага аддзяленьня, пачалі рабіць саматужна талоны на харчы ў сталоўку. Такія падробкі талонаў рабілі і студэнты кааператыўнага тэхнікума, але іх хутка апазналі, выявілі злачыншчыкаў і выключылі з тэхнікума.

Акадэмічныя мэтады выкла-даньня — праца з натураю, перспэктыва й анатомія былі заменены на калектыўны мэтад. Гэта выглядала так: студэнты ўсіх курсаў разам выконваюць кампазіцыю-карціну на тэму ліцейнага цэха металургічнага завода. Фактычна, на вялікім палатне, якое прымацаванае да сьцяны, працаваць усе студэнты ня могуць. Першакурсьнікі ня ведаюць, што рабіць наогул. Таму працуюць студэнты чацьвёртага курса, а астатнія або сочаць, як працуюць старэйшыя, або наадварот займаюцца, чым папала. Агульна адукацыйныя прадметы быццам-бы вывучаюць разам, а залікі здае студэнт, які лепш іншых ведае тэму. Вось у чым заключаўся калетыўны мэтад. Калектывізм быў усюды: у гаспадарцы, у школе, у піянерах, у камсамоле.

Ня ўсе студэнты мастацкага тэхнікума атрымлівалі стыпэндыю, прыходзілася зарабляць на баку—падхалтурваць. Я толькі адзін раз за ўвесь час навучаньня атрымаў дапамогу ў 15 рублёў. Мая адукацыя ў прафтэхшколе будаўнікоў была для мяне вялікім ратункам. Я валодаў шрыфтамі (мог зарабляць на лозунгах). Мог капіраваць плякаты, рабіць дыяграмы, адным словам, неяк зарабляць на жыцьцё.

У тэхнікуме ўвялі ў праграму навучаньня «палитчас», які вёў студэнт 1 курса, але па ўзросту быў далёка немаладым чалавекам. Гэта быў Афроім Левін, член партыі, родам з г.Барысава. Ён браў з газэт нейкую тэму, а мы павінны былі зрабіць для яе ілюстрацыю. У тыя гады ішоў судовы працэс над прампартыяй. Быццам прамыславікі інжынеры рабілі шкодныя ў прамысловасьці праэкты, якія ішлі на падрыў аўтарытэту партыі. Шмат якіх

інжынераў пакаралі, а інжынер Рамзін выратаваўся толькі тым, што сваім вынаходніцтвам распрацаваў шляхі найлепшага будаўніцтва катлоў, у якіх была патрэба ў нашай дзяржавы. На тэму прамысловасьці хапала намаляваць чалавека ў акулярах зь вялікім партфелем, ды яшчэ ў капелюшы. Вось вам і гатовы вобраз інжынера-шкодніка. Рабілі плякаты-карыкатуры на так званых летуноў — рабочых, што часта мянялі заводы на тыя, дзе праца лепш аплачваецца, рабілі карыкатруы на «бракаробаў» у мясцовай прамысловасьці.

Аднойчы на камсамольскім сходзе я выказаў сваю думку аб тым, што мы займаемся не вучобай, не працай з натуры, а робім плякаты, яшчэ не навучыўшыся маляваць. Я тады быў старастай на сваім курсе й атрымліваў ад настаўніка Фогта малюнкі студэнтаў ранейшых выпускаў — рэзаў іх на чацьвярцінкі, каб на адвароце студэнтам можна было маляваць, бо не было паперы. (Малявалі нават на шпалерах на адваротнай старонцы). Разглядючы гэтыя малюнкі, я бачыў, што раней студэнты малявалі аголеную натуру, шкілеты, вывучалі пластычную анатомію. Мы-ж малявалі толькі плякаты. На сходзе мяне вінавацілі ў «правым ухіле, здрадзе камсамолу», маўляў, каму Ціхановіч зайздросьціць, тады-ж займаліся дзеці генералаў ды папоў (меўся на ўвазе студэнт Аляксей Глебаў). На сходзе мяне выключылі з камсамолу, таму што я не прызнаўся ў правым ухіле, не прасіў даравацъ мне за яго. Хутка ў насьценнай газэце зьявілася карыкатура з подпісам «Уклонист».

Тым часам да нашых настаўнікаў пачалі прыглядацца больш пільна і ўрэшце, загадам дырэктара, адхілілі ад выкладаньня лекцыяў па скульптуры Міхася Карзіна, які некалі сам быў дырэктарам тэхнікума. Мабыць, камсамольская лёгкая кавалерыя дазналася пра тую імпэратарскую Акадэмію мастацтва, дзе ён вучыўся. Замест Карзіна пачаў выкладаць скульптуру Ганс Шульц, які толькі што скончыў інстытут пралетарскага мастацтва ў Ленінградзе (тую-ж самую Акадэмію толькі з другой назвай).

У Ленінградзе, у інстытуце пралетарскага мастацтва, панаваў разброд у поглядах і напрамках на сучаснае мастацтва, на акадэмічную праграму навучаньня. Тое, што навучэнцы былі пралетарскага паходжаньня (іх прымалі ў першую чаргу), гэта было фактам. А вось адкуль узяць настаўнікаў пралетарскага паходжаньня, калі ўсе яны вучыліся ў Пецярбургу, а не ў Ленінградзе. Гэтае пытаньне, відаць, ня мела адказу.

Рэвалюцыя панавала паўсюды: і ў тэатры, і ў літаратуры. Свабодны ці вольны пагляд на творчы працэс яшчэ не пасьпеў усталявацца, як урад СССР выдаў указ аб ліквідацыі ўсіх буржуазных згуртаваньняў у мастацтве і ў літаратуры. Былі створаны Саюз савецкіх мастакоў, Саюз савецкіх пісьменьнікаў, Саюз савецкіх кампазітараў, Саюз савецкіх архітэктараў і пры іх фонды, як матэрыяльныя базы. Партыя стварыла ня толькі арганізацыйна творчыя саюзы, але і навязала мастацтву палітычны напрамак у выглядзе «сацыялістычнага рэалізму» і «партыйнасьці». Такім чынам, мастацтва стала «ідэялагічным атрадам партыі на перадавай лініі фронту». У самім мастацтве, быў важным толькі зьмест, а не форма, якая атрымала аглоблі, у якія загналі каня мастацтва і пачалі бізуном ці аўсом гнаць яго па дарозе «до светлого будущего». Узорамі гэтага прапаганднага «багацьця» забіты ўсе сховішчы як Беларускага дзяржаўнага мастацкага музэя, так і Палаца мастцтва ў Менску. Прычым куплялі

такія карціны або давалі заказы на іх у першую чаргу тым мастакам, якія ўжо мелі ганаровыя званьні. У музэі экспанаваліся менавіта карціны гэтых мастакоў, бо яны народам прызнаны як лепшыя.Так гаварылася тым людзям, хто пытаўся ў музэйных работнікаў, чаму няма ў экспазыцыі твораў таго ці іншага мастака без ганаровага званьня.

Гадоў можа з тры назад, я на сходзе мастакоў прапанаваў зрабіць выстаўку мастацтва сацыялістычнага рэалізму або, як яго называлі, «таталітарным». Усім мастакам спадабалася мая прапанова паказаць народу, на што і куды пайшлі народныя грошы. Аднак Міністэрства культуры, каб заваліць прапанову быццам-бы даручыла рабіць выставу нашаму Дзяржаўнаму мастацкаму музэю, а гэта значыць, што выставы ніколі ня будзе, лепш не бударажыць і не запальваць гневу народнага. З пункту гледжаньня Міністэрства культуры, так будзе лепш усім: у тым ліку і мастакам.

На жаль, Міністэрства культуры і яго кіраўнікі быццам-бы ня маюць нацыянальга гонару ,каб не хістаючыся, падумаць ,каму даць прыярытэт у экспазыцыі — рускаму мастацтву ці свайму роднаму беларускаму. Нам вядома, што ў запасьніках музэя, у ягоных падвалах трымаецца вялікая колькасьць працаў даваеннага часу, маючага ўжо гістарычную каштоўнасьць, але ім не даюць праходу карціны, якія зьявіліся адразу пасьля вайны,творы на так званую партызанскую тэму, якая нікім яшчэ так добра не распрацоўвалася, як беларускімі мастакамі. Спасылкі на тое, што не хапае экспазыцыйнай плошчы ў нашых музэях, нельга апраўдаць, бо маем прыклады з серыялам мастака М.Савіцкага пад назвай «Лічбы на сэрцы», які экспануецца ў Дзяржаўным музэі гісторыі Айчынай вайны. На мой погляд, гэтая серыя палотнаў ніякіх адносін да мастацтва не мае. Гэта толькі паказ мэтадаў зьнішчэньня людзей, ня больш і ня менш. Мне даводзілася ўжо крытыкаваць гэтыя «Лічбы на сэрцы», але часопіс «Мастацтва Беларусі» адмовіўся тады друкаваць мой артыкул. Мне было сказана, што трэба пачынаць са здабыткаў, а не з крыткі. У той час, а гэта было 9 гадоў назад, М.Савіцкі быў недатыкальны як непатапляемы крэйсер. Ён узначальваў усе экспертна-закупачныя камісіі, як ў Міністэрстве культуры, так і ў Саюзе мастакоў. А начальства, як вядома, крытыкаваць і тады, і зараз нельга.

Але я крышку адхіліўся ад тэмы Віцебскага мастацкага тэхнікума. 25 гадоў назад я напісаў артыкул «Настаўнікі і вучні», які і хачу прапанаваць вашай ўвазе.

(Працяг у наступным нумары)




Яўген Ціхановіч

# Із агню ды ў полымя

*Быліца адзінаццатая*

Міхась Кавыль

Вясна 1942 году была раньняя. Па Данцу плылі мурзатыя крыгі лёду. Зазелянела руно азімае пшаніцы. Усьпелі шабялінкаўцы пасьпешліва ўкінуць зярняты ў тлусты чарназём, перад тым, як іх усіх высялілі далей ад перадавое.Сеялі, ня дбаючы пра ураджай, які зьбіраць не спадзяваліся,а таму і стаялі, як сіроткі, далекавата каліўца ад каліўца. Як думаў Язэп Лабач, ідучы на ўзвышша зьмяняць начнога разьведчыка Янку Буглака:«Тут нямецкіх куляў болей, як той пшаніцы».І сапраўды: поле было ўсеяна кулямі, крыху паржавеўшымі. «Тут бадай, ня мала палягло,— думаў Язэп, —і нашых, і «фрыцаў»... «Ішоў ён нізінай, а мусіў узыходзіць на ўзвышша, за якім працякала няшырокая рэчка Данец, а за Данцом—немцы. Каб немцы не заўважылі, трэба было паўзьці «па-пластунцкі» раўчаком, які нядаўна пракапалі ўночы. На ўзвышшы быў выкапаны акопчык. «Сьцервы» (стэаратрубы) ня было, яна тут магла здэмаксаваць сакрэтны акопчык. Карысталіся «разьведчыкам-перыскопам». Гэта —прымытыўная прылада: даўгаватая трубка зь лізнамі на канцох. Стаўшы на каленях, не высоўваючы із акопчыка галаву, выстаў канец зялёнай трубкі вышэй зялёнай пшаніцы, глядзі ў ніжні канец і, водзячы справа налева, лаві ў аб'ектыў «фрыцаў» за Данцом. Шмат разоў сядзеў Язэп у акопчыку, цэлы дзень узіраўся за Данец, але ні разу нямчуру ня ўбачыў. Адзін толькі раз злавіў ў аб'ктыў зайца. Доўга Язэп бегаў шкляным вокам за касавурым госьцем, забыўшы пра фрыцаў. Што яны рабілі там за Даном, толькі ім было вядома. А камандзір разьведкі лейтанат Грубнікаў загадаў пісаць рапарты. Прасядзіш цэлы дзень у акопчыку, пішы, што ты высядзеў, што разьведаў. А што разьведаеш, што напішаш? Не напішаш-жа што злавіў у аб'яктыў зайца. І Язэп Лабач пісаў прыблізна так: «Раніцай 25 красавіка із Балаклеі на Купянск прайшоў танк «Тыгар», а з а ім тры маленькія танкеткі. Пазьней у тым-жа напрамку прайшла калёна немцаў, лікам каля пяцьсот чалавек. Пад вечар прайшла конная гаўбічная батарэя, а над перадавой кружыў хвілінаў дзесяць самалёт-разьведчык «Драбіна». У гэтым рапарце праўдай было толькі пра палёт драбіны, двух-фюзэляжнага самалёта. Рэшта —лухта. Пампаліт Канькоў хваліў Лабача за добрую службу, заклікаў разьведчыкаў браць з таварыша Лабача прыклад, Камандзір Грубнікаў таксама хваліў Язэпа і казаў: «Калі мы ўсе будзем так сачыць за ворагам, я падам у штаб рапарат для атрыманьня нагародаў.» І разьведчыкі сачылі, у рапаратах, як і Лабач, зараджалі тухту. Праўда, пазьней гэтая тухта стала праўдай, бо немцы «завязалі мяшок», захапіўшы Купянск. Без падрыхтоўкі, без падцягненьня жывой сілы і тэхнікі, яны ў наступ не пайшлі-б. Але гэта адбылося крыху пазьней. А тады кожнай раніцы з усходу на захад, у бок Харкава нізка над зямлёй ляцелі «Які», празваныя, бадай, за гэты

брэюшчы палёт кукурузьнікамі. Першы раз Язэп налічыў ажно шэсьць кукурузьнкіаў, якія ляцелі стройным зьвяном. Праз колькі дзён зьвяно зьменшылася да чатырох машын, а пасьля да трох, а пасьля кукурузьнікі болей не паказваліся. А гэтае спыненьне палётаў казала: «Нашыя справы дрэнь». Яны, гэтыя палёты, служылі для разьведчыкаў ды, бадай, для пяхоты, якая сядзела ў абароне наўсьцяж Данца, як-бы апошнімі навінамі, бо ні газэтаў, ні якіх-небудзь іншых вестак разьведчыкі ня мелі. Што нашы справы дрэнь, казалі і перабоі з прадуктамі. Што далей, то часьцей вярталіся пасыльныя із Вялікай Шабялінкі з парожнімі каністрамі, зь меньшай колькасьцю сухароў і кансэрваў. Калі раней мясную кансэрву дзялілі на дваіх, дык сталі дзяліць на чатырох. Падцягнулі папругі ня толькі простыя разьведчыкі, але і Грубінкаў з Каньковым. Жыць і ваяваць упрогаладзь ніхто не жадаў, трэба было неяк выкручвацца, і Грубнікаў з Каньковым дадумаліся: «Будзем раскулачваць хахлоў.» Гэта значыць, калгасьнікаў Малое Шабялінкі, якіх высялілі ў Вялікую Шабялінку. Хаты высяляных стаялі зь непазамыканымі дзьвярыма, некаторыя з павыбіванымі вокнамі. Грубнікаў загадаў: «Папрывінчваць штыхі да вінтовак і ісьці ў хаты, рваць падлогу і пароць штыхамі ў зямлю, шукаць «схаванае дабор». І Грубнікаў з Каньковым не памыляліся: знаходзілі разьведчыкі слоікі масла, мёду, вёдры бульбы, пшаніцы. Якіх пару тыдняў не галададлі: варылі бульбу, пшаніцу, пілі кіпень зь мёдам — ласаваліся дабром бедных куркулёў, якія і ня сьнілі, што іх чакае,калі вернуцца ў Малую Шабялінку пасьля вайны. Адзін толькі Іван Таран да ласункаў не дакранаўся, казаў, што ў яго баліць жывот ад гэтай пратухлай у зямлі «ежы». Грубнікаў і Канькоў, бадай, здагадваліся, ад чаго ў украінца Тарана «болит жівіт», але рабілі выгляд, што вераць і спачуваюць. Калі-б Таран адмовіўся «раскулачваць» землякоў, тады другая справа: нявыкананьне загаду. А за гэта—расстрэл. Таран быў нядурны хахол: хадзіў, як і ўсе, поркаў, для прыклёпу штыхом у зямлю, ўспамінаючы тое-ж «раскулачваньне рідного батьки» ў трыццатым, «праклятым годі». Аб гэтым «душегубстві рідного батькі Сталіна» ён, не аглядаючыся на Грубнікава і Канькова, раскажа ў нямецкім палоне. А тады —надыйшло сьвята Першага Мая. Дзень выдаўся сонечны і ціхі. Грубнікаў доўга паціху гутарыў са штабам па тэлефону, а тады распарадзіўся: «Хахлоў, Буглай і Таран, адпраўляйцеся ў Вялікую Шабялінку, Там для нас ёсьць падарункі ад «трудящихся» Казахстану. «Ура!» — закрычалі абрадаваныя разьведчыкі. Грубнікаў казаў далей : «Лабач і Васільяў, вазьміце палявы тэлефон і цягніце на вышыню!». Тут ужо ня крычалі «ура», бо гэта нічога радаснага не абяцала. Канькоў застаўся ў Малой Шабялінцы дзяжурыць каля тэлефону, а Грубнікаў з Лабачом і Васільявым пацягнулі тэлефон на вышыню 908. Для чаго яны рызыкавалі галовамі сярод белага дня,чаму не працягнулі той тэлефон уночы, пытаць у камандзіра не асьмельваліся, бо гэта была вайсковая таямніца. Але хутка ўсё высьвятлілася. Як толькі дайшлі і дапаўзьлі па раўчайку да вышыні, Грубнікаў узяў трубку і, пазваніўшы, сказаў: «Усё гатова, таварыш маёр, можна пачынаць». «Таварыш маёр»—гэта каманьдзір чацьёртай гаўбічнай батарэі Шаўчэнка. Ён з камісарам Іваненкам, з адабрэньня штабу, пад парамі алкаголю, атрыманага ад «трудящихся» Казахстану, рашылі «поздравить» гітлераўцаў зь днём Першага Мая. У ціхім блакітным небе забурлыкалі і зашумелі адзін за адным

снарады.Дзесь за Данцом, у лесе ,яны разрываліся. Паражалі яны немцаў ці выварочвалі толькі дрэвы, судзіць па дымку ,які ўзьвіваўся над лесам, было немагчыма. А Грубнікаў крычаў у трубку: «Так біць, Так біць». А пасьля: «Немцы бягуць, хто куды». «Поздравление» фашыстаў было кароткім. Немцы «русішэ швайн» са сьвятам ня віншавалі, эканомілі снарады для больш паважнага павіншаваньня».

Вярнуўшыся ў Малую Шабялінку, Лабач і Васільяў атрымалі ад Канькова падарункі: «Па жмені арэхаў, па невялікай, сухой перасыпанай чырвоным перцам каўбасе і па вялікаму бохану белага хлеба. «Яшчэ, —сказаў Канькоў, — Ёсьць невялікая бутэлька гарэлкі, але мы тут рашылі бяз вас: «гарэлку не дзяліць, а аддаць таварышу Грубнікаву замест лякарства ад прастуды». Прапанова была адобрана сьмехам і воплескамі. Канькоў перадаў гарэлку Грубнікаву. Той ашчаперыў рукой бутэлячку і стоячы, растапырыўшы нэгі й адкінуўшы назад галаву, пацягнуў праз гарлавіну з булькатам «лякарства». Выпіў палову бутэлячкі, а рэшту запіхнуў і кішэню шынэлі, якая вісела на сьцяне. Прысеўшы на табурэтцы каля століка, на якім стаяў тэлефон, пакашліваючы, стаў закусваць белым хлебам і каўбасой. Разьведчыкі таксама ласаваліся казахстанскімі дэлікатэсамі. Ласаваліся, але з агляд-кай на заўтрашні дзень. Грубнікаў таксама паўкружка каўбасы не даеў і запіхаў у кішэню. Гарэлка, бачна, яго разабрала, падкасіла, бо калі ўставаў з табурэткі і ішоў па хаце, яго вадзіла ў бакі. Пад «пьяную лавачку» надумаўся ён паказаць фрыцам, што мы ўзброеыя ня толькі стрэльбамі, а маем нешта і больш страшнейшае. Накіраўваючыся ў мітусьні да расшчыненых дзьвярэй крыкнуў: «Разьведка, за мной!» Усе падхапіліся, ўзялі зброю і пасьяшылі за камандзірам. Выйшлі ў поле. Грубнікаў загадаў класьціся на зямлю, зарадзіць вінтоўкі і ўсе разам даць залп у бок Данца. Далі «залп», які напамінаў кулямётную чаргу, а ня гарматны стрэл, чым хацеў напалохаць немцаў Грубнікаў. Далі другі і трэці «залп», але атрымалася тое саме —пшык. Грубнікаў ад злосьці ледзь не прыстрэліў Язэпа Лабача, які, як здалося Грубнікаву,стрэліў пазьней за ўсіх. Ня прыстрэліў ён здрадцу толькі таму ,што з-за саду саўгасу Сьвятагорска паявіўся белы самалёт з чырвонымі крыжамі па баках і на крыльлях. Грубнікаў у гарачцы, бадай, не заўважыў чырвоных зорак на самалёце, а чырвоныя крыжы палічыў фашыстоўскімі эмблемамі, закрычаў: «Па варожаму самалёту—агонь!» Затрахцелі беспарадачныя стрэлы. Самалёт як ляцеў, так і паляцеў у бок Харкава. Ляцеў ён высока, кулі да яго не далятали. Калі вярталіся ў Шабялінку Язэп Лабач парушыў небясьпечнае пытаньне, пра якое ўсе разьведчык і думалі, але баяліся закранаць: «Таварыш камандзір,—сказаў рашуча Лабач,—мы абстралялі свой самалёт». Грубнікаў затрымаўся, вылупіў вочы на Язэпа і: «Што ты сказаў?» Лабач паўтарыў: «Мы абсталялі свой самалёт». Грубнікаў запытальна абвёў злосным позіркам разьведчыкаў. Першым азваўся Васіль Васільяў: «Так, таварыш каманьдзір —свой самалёт». А тады загаманілі ўсе разам: «Свой самалёт, з чырвонымі зоркамі самалёт. Санітарны».

Грубнікаў пабялеў, пачырванеў, а тады нашоўся :«Я не заўважыў зорак, а чаму вы, як ўбачылі іх, ня крыкнулі «Не страляць», а стралялі? Га?» Усе маўчалі, як-бы прызнавалі сваю віну, а Грубнікаў насядаў: «Вінаватыя мы ўсе, але віна невялікая: самалёт ня зьбілі. Ды ўсе-ж трымайце языкі за зубамі. Перад таварышам Каньковым

—не заікацца». Сказаўшы так, коса пагля-дзеў на Лабача, даючы зразумець, што гэ-тыя словы больш за ўсё адносяцца да яго.

Калі вярнуліся ў хату, Канькоў пара-даваў весткай: «Зваў таварыш Шаўчэнка —запрашае нас у Вялікую Шабялінку на мітынг з выпівонам і закусонам». Язэп падумаў: «Пір во время чумы.» А Грубнікаў да яго: «Зараз-жа ідзі зьмяні на НП таварыша Бабаджана».

—Ёсьць, таварыш камандзір! Зьмяніць на НП таварыша Бабаджана.

Да назіральнага пунку (НП) ад «дому отдыху» разьведчыкаў якіх хвілінаў дзесяць хадзьзьбы, а калі бегчы прыгінаючыся, дык і таго меней. А Лабач заўсёды бег ня толькі прыгінаючыся, а і ў мітуські, бо па ім коль-кі разоў нехта страляў. Праўда, страляў нехта із далёкай адлегласьці, бо кулі слаба зьвінелі і падалі ў пшаніцу, як кінутыя каменчыкі. Такая куля, каб і цэліла, не магла забіць. У гэтым Язэп быў ўпэўнены, не баяўся. Адзін толькі раз ён моцна перапалохаўся. Тады яго Грубнікаў пасла ў суправаджаць нейкага камандзіра ў якуюсь кантору, якая знаходзілася ў нявялічкім ляску. Камандзір ішоў першы, а Язэп за ім. Раптам грымнулі зусім блізка аўтаматныя стрэлы, камандзір кінуўся на зямлю і крык-нуў: «Ложись!» Язэп упаў пад тоўстую хвою. Ізноў пачуліся стрэлы, кулі зала-паталі па лісьцях кустарніку. Праз якую хвіліну камандзір падхапіўся, а за ім і Язэп, і пабеглі паміж дрэвамі. Болей ніхто не страляў. Дабегшы да канторы, камандзір сказаў Язэпу, што ён можа вяртацца назад. Язэп памкнуўся сказаць, што ён баіцца вяр-тацца, але не сказаў, а спытаў: «А хто, таварыш камандзір, па нас страляў на нашай тэрнторыі?» Той паглядзеў на Язэпа прыжмураным хітрым вокам, вагаючыся, казаць ці не простаму жаўнеру пра тое, пра што яму не абавязкова ведаць, а пасьля сказаў: «Бандэраўцы». Хто такія «бандэраў-цы» Лабач ня ведаў, але распытваць у камандзіра не пасьпеў, бо той схаваўся за дзьвярыма, на якіх вісела дошчачка з надпісам«Мед. пункт». Гэты надпіс пера-кінуў думку Язэпа ад «бандэраўцаў» да мэдыцынскай школы ў Варонежы: «Можа і тут хтосьці ёсьць з мэдычак, сяброўак Клашы?— падумалася і ён прачыніў дзьверы і адхінуўся: у нос дыхнула ёдам, карбо-лаўкай і яшчэ нечым няпрыемным. У не-вялікім пакоі мітусілася тры дзяўчыны з чырвонакрыжымі сумкамі на плячы. Яны адна за адной бралі на падлозе невялікія кардонкі і выносілі праз праціleглыя дзьве-ры на двор. Адна зь іх, убачыўшы Язэпа, на-кіравалася да яго, і Язэп пазнаў яе. Гэта была Верачка Гранкіна, колішняя сымпатыя.

На гэтым мейсцы Лабач адключыўся ад успамінаў, бо падпоўз па раўчаку да акоп-чыка, дзе яго спаткаў Бабаджан жар-таўліва: «Рука ў гару» І Язэп таксама жар-там: «Ты-б лепш сказаў: «Нага ў гару». Бабаджан працягнуў Язэпу руку, дапа-магаючы падняцца, і прамовіў: «Мая твая нэ панімай» Язэп ня стаў разводзіць ан-тымонію, а сказаў Бабаджану хутчэй змат-вацца, бо «можаш спазьніцца на выпівон і закусон». Бабаджан ізноў сказаў:«Нэ па-німай», але перадаўшы Язэпу персыкоп-разьведчык, хутка прызямліўся і папоўз, як вуж, віхляючы нагамі.

Застаўшыся адзін, Язэп паставіў він-тоўку ў кутку акопчыка, паглядзеў у пе-рыскоп ў бок Данца, павадзіў справа налева, але нічога ня ўбачыў, прысеў у акопчыку, а пасьля прылёг у глыбокай выямцы пад казырком жоўтае зямлі. Гэтую выямку-схованку выкапалі для таго, каб схавацца, калі ў небе застракоча разьведчык-драбіна. Разьведчык Язэпу пе пагражаў, неба было

чыстае і спакойнае, але моцна прыпякала сонца, і Язэп схаваўся ў прахалоду і цянёк. Ляжаў ён доўга, ведаў, што Грубнікаў пайшоў на «выпівон і закусон» у Вялікую Шабялінку, нечакана не наляціць з праверкай, як гэта любіць ён рабіць. Успомніў Язэп спатканьне зь Верачкай Гранкінай. Ад яе даведаўся, што ўсю іхнюю школу параскідалі па франтох вайны. Яна трапіла сюды, на Украінскі фронт. Пра Клашу сказала, што «яна ўлопалася ў нашага начальніка Аляксея Новіка, і ён яе патарабаніў у беларускія лясы лавіць мядзьведзяў».

Не спадабаліся Язэпу гэтыя словы, і ён, не разьвітаўшыся зь Верачкай, пайшоў назад. Успомніўшы пра «бандэраўцаў», спытаў у убачанага каля санітарнай машыны чырвонаармейца, як прайсьці ў малую Шабялінку, каб не праходзіць праз лес. «Ня ведаю», — адказаў незнаёмы, і Язэп мусіў ісьці небясьпечнай дарогай. На гэты раз ён ішоў не па дарозе, а ўзбоч, перабягаючы ад дрэва да дрэва, аж пакуль ня выйшаў із лесу. Тады з палёгкай уздыхнуў і сьмела пакрочыў у Шабялінку.

Лежачы пад казырком у акопчыку, думаў пра Клашу: «Няўжо Верачка праўду сказала? Што яна зьбіралася ляцець «помсьціць фрыцам», ляцець у Беларусь, Клаша Язэпу казала, але не сказала, бо ня ведала, што паляціць сама адна, бяз дзяўчатаў, ды яшчэ з начальнікам, ды «лавіць мядзьведзяў». Вядома, пра якія мядзьведзі намякала Гранкіна. «Што-ж няхай ловіць. Плакаць ня буду. Жыў буду — знойдзецца другая Клаша, а ня Клаша, дык Алеся». З гэтымі думамі Язэп вылез із схованкі, стаў і пачуў прыглушаную музыку гармоніка. Рытмы «гапака» чуліся ў баку Вялікай Шабялінкі. Ня зьдзівіўся Язэп, што пачуў музыку, бо да Шабялінкі напрасткі было кіламетраў тры з паловай. А яшчэ надвор'е стаяла ціхае, і цёплы ветрык цягнуў ад Шабялінкі. Зьдзівілі яго недарэчнасьць гэтай музыкі. Ён мог апраўдаць Грубнікава за яго неабдуманыя пьяныя выбрыкі, бо гэта быў былы старшыня калгасу, малапісьменны данскі казак. Але каб Шаўчэнка зь Іваненкам дайшлі да такой бязглузьдзіцы, цяжка паверыць. Няўжо й яны панапіваліся да белых чорцікаў ды ня ведаюць, дзе знаходзяцца? Як-бы ў падмацаваньне Язэпавага нараканьня, з-за Данца заклякаталі, зашыпелі снарады. Немцы не засталіся ў даўгу: павіншавалі зь Першым мая. Язэп бачыў клубкі дымку, якія ўзьвіваліся над тым мейсцам, дзе быў вялікаваты пляц і дзе напэўна, адбівалі байцы-артылярысты «гапака».

(Працяг у наступным нумары)



Алег Карповіч. Ілюстрацыя да апавяданьня Івана Шамякіна «Ахвяры»

# Сафія—сьвятая Сафія Полацкая

Янка Юхнавец

*У.Арлову і Р.Барадуліну*

...калісьці першы камень з палёў сваіх Айчыны
(як люба нам мінулае ўспамінаць)
быў латва ў зямлю глыбока,
пад падмуак апусьцілі
дойліды-ўмельцы полацкія.

...кожны зь іх радоўку не парушаў
пакуль апошні, умураваны,
моўкнасьць сьцен пачаў узьняць
сьвятой Сафіі.
...зтуль голас умараваны—мальба да Бога.
...праз вокны празорыстые,
дакладна, падзяліўшы вышэзнасьць сьцен,
праменьні сонца, потым,
у помач сьвечкам мірсьціцца,
алтар сьвяты асьвецяць
яшчэ зырчэй
цьвярдлівым нараджэньнем праваслаўя.
...анелы, што заўсёды моўкнуць,
з постацяў уверлівых набажэнцаў,
голасна набожна засьпяваліся,
бы абаронцы крэпасьці непераможнай.
...а тады —вечнае жыцьцё людзкое.
...хтосьць бунтуе —сваё знайсьці.
...дрысыроўшчыкі ў храм сьвяты ўходзяць
з польскай мовай.
...радасна сьпяваецца «Авэ Марыя».
...лёс карчуецца сьвяты, узрослы,
на Айчыне. ( На ўвеце сьвятыня сьвятой Сафіі).
...усе парцеры праваслаўя шумяць латыняй.
...манахі з бародамі даўгімі,
пальцамі расчасаныя пагарднамі,
дзесьць у воддалі ад Сафіі.
сьвятой Сафіі нашай,
гародзяць іншыя сады ў іх маліцца.
...з валасамі, у кульку сноп, абстрыжаные,

пад грэбень прычасаныя, пад вопратку чарнявые ўсе,
ходзяць клеркі,
можнасьці укленчваюць свае адзіные прад Богам,
каля алтара
пачатнага сьвятой Сафіяй.
Няўжо усё
зношваецца гісторыяй жыцьця?
...у кроку-ходу спрэчнасьці няма—
заўжды маўклівы.
...у цяжарнасьці нараджэньня
агульны лік прадчаснасьці прад Богам.

...калі я плачу над згубленым сьвятым пачаткам
наступныя мяне чуюць.
...спрадвеку чую пакуль жыву,
ня голасам пустэльніка мінае
каля мяне сьвятосьці сьвятой Сафіі.

...сьвятая Сафія, Сафія тысячна названая.
Сьвята Ты.
Рукі парожнімі не бываюць прад Табой маліцца.

...у моры Беларускім абтокам аб'явілася
між даляў, ніў і лясоў разложыстах, магучых
(там хаты нашыя ў запасе).
...вазёры не уменшваюць узьбярэжжы нашыя.
Там сьвятло на маяку
ніколі не пагашанае.

...яго адзіны паліць, сьвеціць
і ня сьлепіцца ніколі
Гасподзь із Беларусі.

## Чалавек

...учора быў вясёлым і прыгожым,
а сёньня?
Змоўк на векі ў вяках.
...сьвятар хаўтурную малітву вёў,
быццам спрабаваў із вусных мёрлых,
ад памёрлага,
гутарку пачуць.

# Адлёт жураўлёў

Сл. Анатоль Бярозка Муз. Зьміцер Яўтуховіч

*Павольна, журботна*

Am A\F
Ве-рась-нё- ва-е сон-ца гу- ля- е на іх
A G7 C C7
крыль-лях-і ці- ха, туж-лі-ва крыль-лі
F E\A7 Dm7 G11 C
йгра-юць у вет-ры моў струн пе-ра-лі-вы над ір-
Dm Dm9 Esus Пр-ў: E7
жы-шчам пус-тым, над га-ем. Жу-раў-лі ля-
Am Am+7 Am7 E\Gm
туць... жу-раў-лі ля-туць, а над і- мі, зь ня-
A7 Dm Dm+6 1 E7
мо-ю ма-літ-ва-ю, за-сы-на-юць па-
F7 E7 2 Esus E7 Am9
лі ў адзі- но-це... //-нё-ва-е сон-ца за-ло-ціць.

'Верасьнёвае сонца гуляе
на іх крыльлях - і ціха, тужліва
крыльлі йграюць у ветры моў струн пералівы
над іржышчам пустым, над гаем.

'Вольны покліч далёка нясецца
ў паднябесных сініх шляхох...
там, далёка дзесь, родны астаўся парог -
асталося вернае сэрца.

'І лятуць. 'А над імі, зь нямою малітваю,
засынаюць палі ў адзіноце...
'А іх крыльлі, сіньню залітыя,
верасьнёвае сонца залоціць.

# Беларуская спадчына Кліўленда

Сьвятлана Белая

Я, пэўна, не адкрыю Амэрыкі, калі скажу, што Амэрыка—краіна шматнацыянальная. Мабыць, няма на зямлі такой народнасьці, такой краіны ў сьвеце, прадстаўнікі якой не абжылі Злучаныя Штаты. Кліўленд, разьмешчаны на перасячэньні водных і сухапутных шляхоў, пабудаваны на адным зь Вялікіх вазёраў, возеры Іры, не выключэньне. Прадстаўнікоў больш за 100 нацыянальнасьцей можна сустрэць у гэтым палутарамільённым горадзе, сярод якіх, як думаецца мне, першынства усё-такі трэба аддаць славянам.

Славяне пачалі сяліцца ў Кліўленьдзе з XIX ст. Некалі горад быў буйным цэнтрам сталіліцейнай прамысловасьці, якая і прыцягвала славянскіх эмігрантаў, людзей працавітых і ня вельмі патрабавальных да жыцьцёвых умоваў. Заціснутыя палітычна і эканамічна ў сваіх краінах, яны выкраліся з-пад уціску свайго ўраду і знаходзілі ў Кліўленьдзе тое, чаго не хапала ім на Бацькаўшчыне:працу, свабоду, надзею. Кліўлендзкія краявіды таксама, відаць, многім нагадвалі родныя мясьціны. Таму і заставаліся тут славяне, абжывалі гэты край. Кожнае пакаленьне мясьцілася ў сваіх раёнах. Пасьляваенныя беларусы яшчэ помняць, як славянскім раёнам былі вуліцы на на ўсходняй старане цэнтра горада. Нават парк, у якім зьбіралася тады моладзь, так і называўся Славянскім.

Сёньня славянскімі раёнамі можна лічыць у Кліўленьдзе прыгарад Парма, дзе ёсьць украінскія рэстаранчыкі зь «кіеўскімі катлетамі» і «кіеўскімі тартамі», а таксама знакамітымі варэнікамі, якія пачаставаў у час сваёй кампаніі на пост Прэзыдэнта ЗША Біл Клінтан. Ва ўкраінскім магазіне сп.Зіны вас сустрэне прывітальны плякат, дзе амаль на ўсіх славянскіх мовах, у тым ліку і на беларускай, напісана «Калі ласка». Недалёка ад цэнтру горада разьмяшчаецца раён Варшава, дзяньніца выхадцаў з Польшчы і Заходняй Беларусі, з польскімі забавамі, барамі, магазінамі. Моцныя традыцыі трымаюцца ў балгарскіх, харвацкіх, сербскіх раёнах. Што тычыцца беларускіх цэнтраў у Кліўленьдзе, то іх два. Беларуская царква Жыровіцкай Божай Маці і культурна-асьветніцкі цэнтр «Полацак». Асьвячэньне царквы адбылося 3 верасьня 1960 г., а адкрыцьцё новай залі «Полацка» 1 верасьня 1991 г. Беларускі асяродак хаця і невялікі ў параўнаньні зь іншымі славянскімі калоніямі, але даволі цікавы. У гэтым перакаталіся многія наведвальнікі беларускай выстаўкі падчас правядзеньня ў Кліўленьдзе Другога фэстывалю спадчыны.

Адкрыўся фэстываль 10 чэрвеня ў прыгожым будынку Сіты Хол (ратушы), дзе ладзіліся прыняцьцё і канцэрт для ягоных спонсараў, арганізатараў і ўдзельнікаў. У гэты-ж дзень адбылася і сустрэча з мэрам горада Кліўленд Майклам Уайтам, які па традыцыі благаславіў пачатак фэстывалю. *«Мы з гордасьцю і нецярпеньнем чакаем прыходу Другога гадавога Кліўлендзкага фэстывалю спадчыны,*—сказаў ён.— *Спадчына нашага горада й ягоная шматнацыянальная культура ёсьць нашая аснова, якая робіць Кліўленд, тыповы амэрыканскі горад,*

*у той-жа час вельмі своеасаблівым. Мы спадзяемся, што вам будзе падабацца мажлівасьць пабачыць традыцыі і звычаі прадстаўнікоў розных нацыянальнасьцей нашага горада».* Пасьля прачулага выступленьня мэра Майкла Ўайта адбыўся канцэрт, на якім дзіцячая музычная група «Сьпяваючыя Анёлы» выканала некалькі нумароў. Так як я сядзела побач з мэрам горада, я не прамінула мажлівасьці, каб ні пагаварыць зь ім і не запрасіць на нашую беларускую выстаўку. Між іншым, сказала:«Містер Уайт, маё прозьвішча ёсьць Белая, што ў перакладзе на ангелькую мову азначае Ўайт, так што мы цёзкі па прозьвішчу.» Мэра горада гэтае паведамленьне расчуліла. Ён даў мне свой аўтограф (адпрацаваная гадамі да аўтаматызму рэакцыя на папулярнасьць) і прапанаваў сфатаграфавацца пасьля канцэрта.

На другі дзень, пасьля афіцыйнага адкрыцьця фэстывалю, ён, стрымаўшы слова, зайшоў на беларускую выстаўку, прывітаўшы мяне, як старую знаёмую: «Рад Вас бачыць міз Уайт». Як і ўсе наступныя наведвальнікі, ён зь цікавасьцю прагледзеў старажытную карту Вялікага княства Літоўскага, якую мы паклалі на самае бачнае мейсца, запытаўся аб сёньняшнім эканамічным і палітычным становішчы рэспублікі Беларусь. Пацікавіўся, хто ёсьць Прэзыдэнт нашай краіны. Яму спадабалася навіна, што Станіслаў Шушкевіч запрошаны Прэзыдэнтам Білам Клінтанам у Белы Дом.

Беларуская выстаўка, арганізаваная Кліўлендзкім аддзелам БАЗА і часопісам «Полацак»,знаходзілася ў зайздросным для іншых удзельнікаў мейсцы–самым «цэнтры сьвету». Беларусь нельга было прамінуць,



У час сустрэчы з мэрам горада Кліўленд Майклам Уайтам у гарадзкой ратушы.
Зьлева направа: Янка Ханенка, Сьвятлана Белая, Майкл Уайт

зь якога-б боку старажытнага будынку Арморы вы не ўваходзілі. Нашымі суседзямі былі венгры і тайванцы, насупраць разьмясьцілі свае экспазыцыі прадстаўнікі Польшчы, Сальвадора, Джамэйкі, Гватэмалы. Таксама ў фэстывалі прымалі ўдзел немцы, вьетнамцы, індыяне, сінегальцы, індыйцы, ірландцы, славенцы, славакі, харваты, ліберцы, расейцы, нігерцы, грэкі, кітайцы. Кожная выстаўка была зробленая зь любоўю і была цікавая. Толькі, як сказала мне зь лёгкай «белай» зайздрасьцю адна з арганізатараў харвацкай выстаўкі: «Беларуская экспазыцыя мае больш за ўсё наведвальнікаў». Сапраўды, на нашай выстаўцы было што паглядзець. На два сталы, засланыя тканымі і вышыванымі беларускімі ручнікамі, мы паклалі беларускую літаратуру па мастацтву, пэрыёдыку, сувэніры з саломкі і дрэва. Мастак Янка Салавянюк выставіў свае працы: іконы Еўфрасіньні Полацкай, Божай Маці Чарнобыльскай, серую карцінаў па дрэву «Белавежская пушча». Серыю працаў з саломкі «Беларускія танцы», «Беларускае аддзеньне» перадаў на выстаўку Уладзімір Дунец. Прыгожыя медзяныя чаканкі Пагоні і Менскай Божай Маці як бы абрамлялі выстаўку. Упрыгожвалі яе і драўляныя шкатулкі, пісанкі, вышыванкі, льняныя лялькі, саламяныя абручы, прывезеныя зь Беларусі. Выстаўка прыцягвала наведвальнікаў.

Як і заўсёды знаёмства амэрыканцаў зь Беларусьсю пачыналася з геаграфіі. Памятаю, як 2 гады назад разам з народным дэпутатам Уладзімірам Новікавым, заступнікам мэру гораду Менску Анатолем Гурыновічам, а таксама з Анатолем Лукьянчыкам мы наведалі банк «Society» ў горадзе Аштабула. Мы пачалі нашую размову з прэзыдэнтам банку Доугласам Гедбергам і віцэ-прэзыдэнтам Вільлямам Улеям з таго,




На беларускай выстаўцы пад час фэстываю спадчыны
Зьлева нарава: Рычард Канішэвіч, дырэктар Кліўлендзкага фэстывалю спадчыны, Клара Амстер прэзыдэнт Кліўлендзкага фэстывалю спадчыны, Сьвятлана Белая, Міхась Белямук

што знайшлі ў банку глобус і паказалі, дзе знаходзіцца Беларусь. У той дзень мы ня толькі растлумачылі амэрыканцам месцазнаходжаньне Беларусі, але расказалі пра яе гісторыю, эканоміку, культуру. Пасьля гэтай сустрэчы я ня раз прыгадвала гэты глобус, калі размаўляла з амэрыканцамі пра Беларусь. Часта мне не хапала яго.

—Раней мы ведалі толькі Савецкі Саюз, —прызналася мне адна наведвальніца нашай беларускай выстаўкі.—Калі Саюз распаўся, мы раптам убачылі, колькі мы ня ведалі аб гэтай краіне.

Падобныя «адкрыцьці» адбывалася і зь іншымі краінамі, якія нядаўна атрымалі сваю незалежнасьць. Першы раз зрабілі асобныя выстаўкі чэхі і славакі. Амэрыканцы, якія больш менш прывыклі да адзінай і недзялімай Чэхаславакіі, не маглі зразумець, адкуль узяліся гэтыя новыя для іх сьвядомасьці дзяржавы.

Але вернемся да беларускай выстаўкі. Больш за ўсё яе наведвальнікаў цікавіла палітычная і эканамічная сытуацыя ў Беларусі. «Хто Ваш прэзыдэнт»?—абавязкова было наступным пытаньнем амэрыканцаў. Якую індустрыю вы маеце, дзе ў Кліўленьдзе жывуць беларусы? Дзе знаходзіцца беларуская царква? Сьпіс гэтых геаграфічна-палітычных пытаньняў можна працягваць і далей. Праўда, былі спробы і больш глыбокага асэнсаваньня нашай Бацькаўшчыны. Адзін амэрыканец, хутчэй за ўсё бізнесьмен, зацікаўлены прыроднымі рэсурсамі і падахвочаны ейнымі багацьцямі, сказаў, што ён абавязкова паедзе ў Беларусь. Хто ведае, можа і сапраўды шляхі прывядуць яго ў нашую Рэспубліку.

Наогул, нягледзячы на аматарства ў правядзеньні падобных фэстываляў, значэньне іх нямалае. Акрамя асабістых кантактаў, знаёмстваў, якія завязаліся ў час гэтага мерапрыемства, шмат людзей даведаліся пра Беларусь. Няхай, пакуль на геаграфічна-глобусным узроўні, але і гэта ўжо крок наперад. Калісьці прыйдзе дзень, калі амэрыканцы, пачуўшы назоў Беларусь, ня будуць акругляць вочы і пытацца, дзе знаходзіцца краіна. Але нават геаграфічнае прызнаньне ня прыйдзе само па сабе, без нашых агульных намаганьняў. Усім нам трэба яшчэ многа працаваць над тым, каб Беларусь была вядома ва ўсім сьвеце. І ня толькі дыпляматам, амбасадарам, консулям, якія распаўсюджваюць веды пра Беларусь на сваім, дыпляматычным узроўні, але і усім нам, у нашым штодзённым, абыдзенным жыцьці.



# Узнагарода

ГРОДЗЕНСКІ ДЗЯРЖАУНЫ ЎНІВЕРСІТЭТ
ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ

ДЫПЛОМ
Ганаровага доктара навук
№ 1
г.Гродна

Рашэннем
Вучонай рады ўніверсітэта
ад 30.06.1993г. (пратакол № 13)

Вітаўту Кіпелю
(прозвішча, імя, імя па бацьку)

прысуджана вучоная ступень
Ганаровага доктара гістарычных навук




Старшыня Вучонай рады — А.Бадакоў

Вучоны сакратар — К.Вербава

# ЛІСТЫ З БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

## Рэдакцыйнай калегіі часопіса «Полацак»

Шаноўныя сябры!

Шчыра дзякую за наданне мне званьня ганаровага сябры рэдкалегіі часопіса, які зьяўляецца вяснуном беларускасьці ў Паўночнай Амэрыцы і ў нас на Бацькаўшчыне, у Беларусі, дзе ён карыстаецца павагай і яго чытачоў з вялікай цікавасцю.

"Полацак" уносіць свой уклад у справу Адраджэньня матчынай мовы, беларускай культуры, у змаганьне за тую незалежную Беларусь, пра якую марылі і змагаліся за і неўміручыя дзеячы БНР. Супрацоўнічаць з такім часопісам, друкавацца ў ім, спрыяць каб ён квітнеў — пачэсная справа для кожнага беларуса, які жадае сабою звацца.

12 ліпеня 1993 г. Георгі Штыхаў

